
Вечарына ў Белавежы → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Неверагодная Анна → 8

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 47 (3210) Год LXII Беласток, 19 лістапада 2017 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


Адкуль у **Агнешкі Прымакі-Байко**, былой чыноўніцы, якую жыццёвыя дарогі завялі на родны хутар у Шудзялаўскай гміне, той запал да магічных ды лекавых зёлак? Пра гэта яна расказала на сустрэчы з сябрамі згуртавання АБ-БА, якія запрасілі яе ў Склеп з культурай пры Пачатковай школе № 4 у Беластоку 10 лістапада. Разам з яе духмянымі магічнымі прэпаратамі, ад якіх здаравееш і вяртаецца табе маладая краса, хаця на вуліцы восеньская слата.

# Зельная Агнешка з Кнышэвіч



— Маё замілаванне да прыроды заўсёды было са мной, — кажа Агнешка. — Калісьці, можа, менш свядома, чым цяпер, але было яно заўжды побач. Я вырастала з прыродай. Мы жылі далёка ад вёскі, я не мела аднагодкаў, таму ўвесь дзень гуляла ў асноўным з жывёламі, і расліны былі блізка мяне. І яшчэ вельмі цікавіла мяне, што мая бабуля збірала зёлкі, сушыла іх, запарвала і рыхтавала мікстуры. Гэта было сапраўды магічнае. І лячыла. Пра расліны я вучылася і працягваю вучыцца. Спачатку былі тыя асноўныя, вядомыя ўсім — крапіва, малачай, а з часам і менш вядомыя як чарада трохраздзельная або шабельнік балотны.

Агнешка Прымака — апрача захаплення — бізнесовец. Праца над зёлкамі — прыбытковая. Інспірацыяй для заснавання Зёлкавага хутара быў рост алергіі ў дзяцей. Пасля барацьбы з класічнай медыцынай у 2014 годзе рашыла яна кардынальна змяніць свой лад жыцця. Раслінныя лекавыя сродкі, выраблены на хутары, памагаюць Агнешцы і яе дзецям, таму яна вырашыла падзяліцца гэтым вопытам і ведамі з іншымі людзьмі. Ад 2015 года вядзе сваю дзейнасць у зёлкавым напрамку. Жыве на абочыне цывілізацыі і вядзе экалагічны лад жыцця. Прадукцыю, якая вырабляецца ў «Зельскім хутары» можна ўбачыць на розных кірмашах або праз інтэрнэт і набыць. А такіх заўзятараў народнай медыцыны, якая абапіраецца на айчынныя расліны, у краіне шмат. Найбольшым інспіратарам іх з'яўляецца доктар Генрык Ружанскі, да якога можна звярнуцца па параду і тлумачэнне ўласцівасцей раслін і ўздзеяння зёлак у практычнай тэрапіі.

— Калі ўжо рыхтуеш зелле, мікстуры і прэпараты, трэба ведаць, у чым раствараюцца біялагічна актыўныя рэчывы і як іх «выцягваць» з зёлак. У наш час можна шмат даведацца з літаратуры і ў інтэрнэце. Трэба толькі жадаць і ўмець шукаць. Акрамя таго, на фейсбуку ёсць шмат тэматычных груп, якія абменьваюцца ведамі і доследам. З зёлкамі так ёсць, што калі ўжо пачынаеш іх збіраць і штосьці з іх рабіць, хочацца даведацца пра іх сакрэты. А ёсць што даследаваць і адкрываць! На Падляшшы з спрадвечных часоў зёлкі прысутнічаюць практычна ў кожным доме. Пажылыя людзі памятаюць тыя часы, калі зёлкамі лячылі людзей і жывёл. Наша зямля багатая ў зёлкі, яна адносна чыстая, хоць, на жаль, прамысловая сельская гаспадарка дасягнула нас таксама. Людзі перасталі жыць у гармоніі з прыродай. Я моцна веру, што свядомасць людзей зменіцца і пачнем больш яе паважаць. Без прыроды — прападзем! «Зельскі хутар» гэта месца, у якім я жыву — гэта калёнія Кнышэвічы. 6 гектараў роднай зямлі. Калі я пачала займацца зёлкамі, назвала яго Зельскім. І так называецца ён віртуальна, на фейсбуку — Zielska Kolonia. Я хачу, каб Зельскі хутар быў месцам, куды змогуць прыехаць людзі, зацікаўленыя ў лекавых травах. Каб людзі трохі запаволілі свой імпэт і крыху па-іншаму зірнулі на тое, што вакол нас. На малачай, крапіву, пырнік глянулі не як на пустазелле, якое нам перашкаджае, але як на расліны, якія можам палюбіць і пакарыстацца іх уласцівасцямі. Хацелася б мне, каб гэта было месца, дзе не толькі людзям будзе добра, але і дзікім птушкам, насякомым і раслінам. Мы ўсе — узаемазалежныя.

Агнешка Прымака прымае ўдзел і арганізуе майстар-класы, травяныя сустрэчы, парады. Хоча перадаць свае веды і перадаць іншым свой запал да прыроды.

— Мая мара — каб людзі навучыліся выкарыстоўваць разумна скарбы, якія дае нам Маці Прырода. Каб адрозні асноўныя расліны, каб ведалі, якая траўка можа дапамагчы, калі пакалечымся, а якая на боль у горле. Сапраўды, каб пры першай ранцы ці болю не бегчы ў аптэку, расліны ж — толькі працягнуць руку. Бог дазволіў хваробу, але і даў расліны, якія загойваюць. Асаблівая дзеці паглынаюць веды пра пазнаванне раслін, з запалам займаюцца на майстар-класах пры выкананні шароў для ванны, мыльцаў, мацэраты-вымочкі. На жаль, яны не ведаюць асноўных раслін, не ведаюць, якія з гэтых раслін з'яўляюцца ядомымі і лекавымі. Усе прывыклі, што ўсё купіш у краме. А столькі дабра расце вакол нас!

З чаго пачаць? З простых зёлак, якія мы ведаем і ў нас няма праблем з іх распазнаннем. Гарбатка з крапівы, салатка з дадаткам пялёсткаў маргарыткі, ружы, малачаю, настуркі, аксаміткі, ліманад з кветак чорнай бузіны, веснавая «агародніна» — лісткі дзьмухаўца, крываўніку, будры плюшчавіднай (bluszczyk kurdybanek). Тут сапраўды непатрэбныя вялікія веды, расліны — рукой падаць, на шпацыры хопіць сабраць пялёсткі ружы, васількі, чабор, крываўнік — і ў нас ёсць выдатны травяны чай. Я гарантую, што ў бліжэйшы час абудзіцца ў нас патрэба збіраць і даведвацца аб зёлках. Я таксама запрашаю на зёлкавыя прагулкі і семінары на Зельскім хутары. Я пакажу больш ядомых і лекавых раслін, а таксама тое, якім чынам могуць быць яны выкарыстаныя... Раблю зёлкавыя і фруктовыя воцаты, травяныя сіропы, гарбаты і травяныя сумесі, травяныя і натуральныя касметычныя сродкі — мазі, крэмы, мыла....

— Я спакусілася на крэм ружавы і сыроватку для твару, дзякуючы Барбары Цыльвік, — хваліць зёлкавыя вырабы Агнешкі Прымакі Агнешка Зайкоўская. — Па ніякім прэпарацы, нават з вышэйшай паліцы, я не мела такой скуры як пасля крэмаў Агнешкі. Напэўна, не былі гэта апошнія пакупкі!



— Я таксама рэкамендую прадукты пані Агнешкі. Яны проста фантастычныя! Мазь супраць насмарку, памада для губ з жывакостам, ружавы крэм — не замяню іх на ніякія іншыя! — заклінаецца Дарота Галашэвіч.

— Пані Агнешка дзякуючы сваім вырабам уратавала маю дачку ад экземы, — лічыць пані Эва.

— Мазь з белакапытніку для атапічнай скуры майго дзіцяці проста збаўленне! — лічыць Кацярына Гофман.

— З Зельскага хутара маю мазь з падтынніку (jaskółcze ziele), якая хутка загаіла рану, якую я вельмі доўга лячыла, — даказвае Юстына Таўдуль. — Стан быў трагічны, а праз тры дні шмаравання маззю рана знікла!

— Тонік з пятрушкі — проста супер! — захапляецца Ага Альшэўская. — І мазь з цюльпана таксама!

— Мазь з наготкаў і таполевая мазь уратавалі мае ногі, я ўжо хадзіць не давала рады!..

— Хутар Агнешкі Прымакі — аазіс нармальнасці ў атручаным і зруйнаваным свеце! Прадукты дзейнічаюць паспяхова, воцаты смачныя... Людзі з пасіяй да зялёнасці, — хваляць тыя, хто пакарыстаўся вырабамі Агнешкі з Кнышэвіч. Добрая рэклама спрацоўвае і прыцягвае новых сяброў Зельскага хутара розных узростаў. «Біце брава!» — слушна заахвочваў наймалодшы АБ-БАвец Клімент, захоплены «зялёнай» цёцяй Агнешкай на фоне вясёлкавых матылькоў на сцяне Склепу з культурай. — Вучыцеся ад яе!

Агнешку Прымаку-Байко можна знайсці тутака:

**Zielska Kolonia, Knyszewicze 86, Szudziałowo**
**tel. 504449730**
**aga.prymaka@gmail.com**

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**





# Чыста беларускае самагубства

У адным англійскім дэтэктыве, які называецца „Чыста англійскае забойства”, адзін з герояў сцвярджаў, што забойствы нават далёкіх сваякоў не тыповыя для Англіі. Але другі яскрава даказаў, што такое забойства носіць выключна англійскі характар. Бо толькі ў Англіі некаторым катэгорыям як жыхароў па спадчыне і па старшынстве перадаваліся сацыяльныя прывілеі. І злачынны розум забойцы сваяка штурхнуў таго на знішчэнне канкурэнта.

І сапраўды, многія рэчы носяць выключна нацыянальную адметнасць, прывязаную, зразумела, да канкрэтнага часу і яшчэ да дзейснага заканадаўства, бо ўсё адбываецца ў часе. І тое, што гадоў дзвццаць таму было толькі хворай фантазіяй, сёння можа стаць рэальнасцю.

Вось у Гародні шафёр аўтобуса спыніў свой грамадскі транспарт з пасажырамі прама на мосце праз Нёман, залез на парэнчу і сігануў у раку. Спроба самагубства па словах яго калег была выклікана ўмовамі працы. І гэта вельмі яскравая адлічнасць нашага беларускага часу. У іншых краінах шафёр гарадскога аўтобуса вельмі адказная, дастаткова прэстыжная і, самае галоўнае, даволі высокааплатная прафесія. Умовы працы таксама вызначаныя з пазіцый вялікай адказнасці гэтай прафесіі і іх выкананне пільна адсочваюць прафсаюзы. У Беларусі некалі было гэтак жа. Людзі марылі атрымаць такую работу. Сёння ж ідзі і працуй, калі маеш адпаведную кваліфікацыю. Але для чаго? Каб праз нейкі час скочыць са свайго працоўнага месца прама ў Нёман?

З другога кутка Беларусі прыходзіць паведамленне, што мужчына звёў рахункі з гэтым жыццём, бо не змог выплачваць крэдыт. Зразумела, што гэта не з'яўляецца апраўданнем, ці асэнсаванай мадэллю паводзін. Але тое, што чалавек, які мае працу, руплівы, стараны, чулы, сямейны, бо браў крэдыт, каб дапамагчы свайму дзіцяці набыць жыллё, не нейкі там беспрацоўны бомж, а рабочы чалавек не ў стане выплаціць крэдыт за жыллё і знаходзіць такое выйсце са складанай сітуацыі, гэта таксама нешта гаворыць пра сённяшні беларускі час.

І тут само напрошваецца простае і лагічнае пытанне: чаму гэтыя людзі адважыліся менавіта на такое заканчэнне сваіх праблем, а не пайшлі, прыкладам, высвятляць стасункі з тымі, каго лічаць вінаватымі? Ці проста не выйшлі на вуліцу адстойваць свае правы? І адказ на гэтае пытанне ёсць — ім проста сорамна прызнаць, што яны ўсё сваё жыццё памыляліся. Яны галасавалі за гэтую ўладу. Яны вучылі сваіх дзяцей не ісці супраць яе, забаранялі выходзіць на вулічныя акцыі, а тых, хто выходзіў, называлі не добрымі словамі. Яны казалі, што трэба працаваць, а не дзерці горла і тады ўсё будзе добра... Яны працавалі... І што рабіць зараз? Прызнаць, што ўсё жыццё прайшло ў адным поўным падмане? А як пасля гэтага глянуць у вочы жонцы, дзецям, іншым людзям? Вось і выбіраюць некаторыя не зусім лагічную са здаровай кропкі гледзішча развязку. Нават такую працу, якая не можа забяспечыць патрэбы, проста так не кінеш, бо тады чалавек пераходзіць у разрад „дармаедаў”. А беларускае заканадаўства ў справе з „дармаедамі” яшчэ не паставіла кропку. Таму падобныя суіцыды і іх спробы, як у тым англійскім дэтэктыве, можна ахарактарызаваць на сённяшні час як беларускія.

Але гэты час, калі нават такім сумным падзеям можна надаць назву „беларускія”, ужо праходзіць, бо мужнее ўжо новае пакаленне — пакаленне інтэрнэту, якое яшчэ сваім дзецям не забараняла актыўна адстойваць свае правы, пакаленне, якое яшчэ не сказала свайго слова. Частка гэтага пакалення прыстасоўваецца да ўмоў і шукае цёплыя месцы пры структурах улады і не абслугі. Частка з'язджае за мяжу, каб там скарыстаць свае сілы і розум і на чужыне рэалізаваць свае мары і планы на жыццё.

Але ёсць і такая частка, якая застаецца тут і пры гэтым не збіраецца паўтараць памылкі сваіх папярэднікаў. Яны зараз глядзяць на ўсё, што адбываецца і пакуль што думаюць як ім лепш зрабіць.

А ў Англіі, дарэчы, з моманту выхаду дэтэктыва „Чыста англійскае забойства” заканадаўства памянялася. І цяпер кожны англічанін можа сцвярджаць, што тое забойства, якое апісанае ў дэтэктыве, ужо не тыповае для туманнага Альбёна.

Віктар САЗОНАЎ

# Эх, шкода

Яшчэ раз успомню старую добрую прыказку — «чым далей у лес, тым больш дрэў»... Не, не, я не збіраюся зноў чапляцца да пана Шышко. Хоць, што наказвае мне хранікёрская справядлівасць, яго елачная эманацыя ўпала мне на чэрап у апошні раз, калі я шпацыраваў па лесе. За што?! Гэта было балюча! А я хацеў ціха пазахапляцца прыродай. А якраз быў Дзень незалежнасці, святкавалі нават бензапілы.

Да прыказкі я вярнуўся ў іншым кантэксце. Паўтараюся? Лепш паўтараць зразумелыя словы, чым неразумныя памылкі. Прасвятленне розумаў ударае нечакана і раптоўна. Толькі трэба спыніцца. Паколькі словы знаходзяцца ў пастаянным звароце сэнсаў, то варта глядзець на іх з увагай. Калісь мяне вучылі, што ісціна ёсць ісціна. А што з'яўляецца няпраўдай — гэта фальш. І таксама што праўду нельга недаацэньваць. Гэтак жа, як хлусню. Адно робіць другое выразным. Абодва значэнні ўзаемна відныя праз параўнанне. Без існавання якога-небудзь з іх яны абое незаконныя, каб зрабіць выснову аб тым, што штосьці ёсць праўдай ці не. Нават Алексіс дэ Таквіль, французскі мысляр XIX стагоддзя адзначыў, што «без параўнання розум не ведае, куды ісці». Справа ў тым, каб дакладна вызначыць праўду і відавочную ілжывасць. Думаю, што гэта вельмі ідэалістычная канцэпцыя. Сёння, у эпоху постмадэрнізму, які прысвоіў розныя постісціны, папахвае ён мышкай. Сёння паняцце праўды расшчапляецца, як сонечнае святло ў прызме, на шмат асобных значэнняў. Ёсць «ісціна» і «самая шчырая праўда», ёсць праўда «наша», «ваша» і «іхняя»... Так раскрываюць многія катэгорыі праўды. Можа, ісцін ёсць многа? Калі так, ёсць шмат адпаведнай хлусні. Колькі з іх супярэчаць самім сабе? Калі я не памыляюся, то фальш, які супярэчыць фальшу, паказвае на праўду. Тое ж самае ставіцца і ў адносінах да ісціны. Дык што з'яўляецца ісцінай? Ці яна адна? А як з фальшам?..

Ужо некаторы час функцыянуе ў паўсядзённай гаворцы выраз, зусім прыгожы, але забруджаны канцэптуальным і моўным невуцтвам і нядбайнасцю, які ўсё ж упарта паўтараецца: «Паміж Богам і праўдай». Асабіста я нават чую яго з вуснаў аднаго біскупа. І яшчэ, так што не дзіўна, шмат у яких палітыкаў-невукаў. А тут варта падкрэсліць, што адзіна правільнай і прытым разумнай ды сэнсоўнай фразай з'яўляюцца форма «Богам і праўдай». Яна тут «праўду» адносіць у вышэйшую інстанцыю, якая ўяўляецца Богам, які ёсць сама праўда. «Паміж» абясцэньвае ісціну перад Богам і Божай праўдай. Толькі каго турбуе сёння той сэнсавы троль — слова «паміж» у сказе «Паміж Богам і праўдай»? Здаецца, нікога. Магчыма, менавіта таму польскія неанацысты, крайне радыкальныя як заўсёды, у апошні Дзень незалежнасці маніфеставалі на вуліцах Варшавы пад вялікі банэрам з надпісам: «Chcemy Boga». Толькі аб праўдзе, таксама гістарычнай, вельмі негатыўна асуджаючай фашысцкую, нацысцкую ці блізнячую ім сталінскую ідэалогію слаўцом нават не згадвалася. Верагодна, апрыёры палічылі, што яна адбываецца толькі паміж імі і Богам, а хто думае інакш, той лжэ (?)...

Можна было б махнуць рукой на вышэйшыя развагі, але гэта была б ганебная адмова ад ісціны. Можна абмінуць такое стаўленне ганарлівым маўчаннем, але гэта азначала б маўклівую згоду на відавочную хлусню. Паміж адмаўленнем і маўчаннем вельмі хутка растуць коміны Асвенціма. І сталінскія ГУЛАГі.

Фраза «чым далей у лес, тым болей дрэў» стала прымаўкай, здаецца, дзякуючы ўсёй нашай чалавечай мудрасці былых пакаленняў, якім захацелася падзяліцца сваім вопытам з будучымі. Неабавязкова быў гэта досвед вынікаючы з мудрасці. З глупства таксама. Ідучы за Таквілем, адно і другое складаецца на веды генерацый, паводле якіх чалавечыя розумы не страчваюць кагнітыўнай арыентацыі. Толькі што гэтыя веды кожнае наступнае пакаленне марнуе на асобныя адмовы. Як ментальныя, так і практычныя. І такой здаецца быць наша чалавечая мудрасць: маем веды, якіх мы не ў змозе выкарыстаць. Якое марнатраўства!

Сёння я перакананы, чым больш мы ведаем тэарэтычна як супольнасць, тым больш мы становімся як людзі практычна дурнямі. Але гэта мае ўражанне. Можа быць, гэта толькі я дурань. З некаторай горыччу, але і спадзяваннем стаўлю тэзіс пра тое, што чалавечая мудрасць падымаецца, аднак, на сваёй уласнай дурасці. А мы становімся мудрэйшымі, ды пасля шкоды, якую робім сабе. Ой, шкода. Шкода ўсіх нас.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Нямецкая рэальпалітык

Калі дзяржавы гавораць толькі пра мірную палітыку і такое ж суіснаванне, значыць, справы набіраюць дрэнны абарот. Калі глянуць на сённяшні свет, то маем дачыненне з адной вялікай бочкай пораху, якая можа ўзарвацца ў любую хвіліну ў любой кропцы свету. Таксама еўрапейская прастора не з'яўляецца аазісам зацішша і стабілізацыі. Пасля балканскіх войнаў пачатку дзевяностых гадоў, пасля Прыднястроўя, Грузіі і Асеціі, Крыма і Украіны зараз насоўваецца пытанне: а што ж будзе наступнае? Да ісламскага тэрарызму ў Еўропе, як пераконваюць нас некаторыя мудрагелістыя аўтарытэты і палітыкі, мы павінны прывыкнуць ды пагадзіцца, што трэба нам з гэтым жыць. Чаму так менавіта мае быць? Не магу зразумець такой логікі думання. Да чаго яна вядзе, сведчыць надта многа жахлівых прыкладаў. Таксама сам Еўрасаюз пачынае даваць трэшчыны ўнутры і пагроза, што лопне як надзьмуты шарык, здаецца не быць апакаліптычным прадказаннем. Паказваюць на гэта і апошнія вынікі парламенцкіх выбараў у розных еўрапейскіх краінах, якія са шторазу больш рашучасцю пачынаюць выказваць сваё незадавальненне з нямецкай гегемоніі на кантыненце. Дарэчы, і ў самой Нямеччыне пасля апошніх выбараў падтрымка для пераможнай і гэтым разам Ангелы Меркель значна пайшла ўніз. А ўсё дзякуючы занадта адкрытым дзвярам для мігрантаў. Справа мігрантаў з'яўляецца праблемай, якая не толькі раз'ядноўвае еўрапейскія дзяржавы, але, самае горшае, паказвае безвыніковасць прынятых рашэнняў на самым высокім структурным еўрасаюзным узроўні.

На мінулым тыдні праз польскія медыі праляцела аднадзённая навіна, што ў руках нямецкага штотыднёвіка «Der Spiegel» апынуўся дакумент падрыхтаваны планавікамі нямецкай арміі, якія прадбачваюць шэсць магчымых сцэнарыяў, нясучых з сабою пагрозу для Нямеччыны і ўсяго свету. Ягоная публікацыя не выклікала медыйных дыскусій, паколькі польская палітыка і публіцыстыка займаюцца ў асноўным унутрыплемяннай грызнёй. А шкада, бо тэзісы нямецкіх вайскоўцаў паказваюць, чым дыхае іхняя рэальпалітык, якая з берлінскіх пазіцый вядзе такія, а не іншыя еўрапейскія палітычныя дзеянні. Чаго баяцца немцы? Перш за ўсё развалу Еўрасаюза. Можа гэта быць павольны працэс, калі чарговыя дзяржавы зыходзяць з яго, за прыкладам Вялікабрытаніі, ці гэта самапаслабленне еўрасаюзных структур улады. Адно і другое напэўна выкліча агульнаеўрапейскі крызіс. У яго ўціхамiранні няшмат у чым дапамогуць Злучаныя Штаты Амерыкі і такім чынам хаўрус паміж заходняй Еўропай і ЗША будзе знішчаны. Немцы баяцца, што краіны Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, такія як Польшча, Вугоршчына, Славакія, створаць нешта накшталт уласнага саюза, званага імі самімі Усходнім Блокам. Аб'яднанне ўсходу і іхні адыход ад падпарадкавання ЕС можа цалкам змяніць геастратэгічную сітуацыю Берліна і панізіць яго палітычнае значэнне. Нямецкая армія баіцца таксама ўнутраных канфліктаў і росту экстрэмізму. Не ідзе толькі пра рэлігійны экстрэмізм і звязаны з ім ісламскі тэрарызм, але ўзрастанне ў сілу крайне левых і правых арганізацый. Адны і другія прымяняюць зараз вельмі жорсткія метады дзеяння.

Чарговыя пагрозы маюць эканамічны характар. Аўтары рапарту звяртаюць увагу на магчымасць вяртання ў некаторых еўрапейскіх сталіцах гэтак званага дзяржаўнага капіталізму — сістэмы, у якой быццам свабодны рынак знаходзіцца пад кантролем дзяржавы. Баяцца яны эканамічнага пратэкцыянізму (а самі адначасна праводзяць такую ж самую палітыку) і запаволення працэсу глабалізацыі. Немцы з'яўляюцца трэцім найбольшым экспарцёрам у свеце, а ў мінулым годзе розніца паміж іхнім экспартам і імпартам прынесла рэкордны прыбытак велічынёй у трыста дзесяць мільярдаў долараў. Абмежаванне рынкаў для іхніх тавараў і рост мытных збораў на практыцы абазначае для нямецкай гаспадаркі крызіс, які можа давесці да абвалу развітай сацыяльнай сістэмы паслуг і ўнутранага крызісу.

Тое, што нямецкая армія пачала пісаць такія аналізы, мяркуюць журналісты штотыднёвіка «Der Spigel», гэта незвычайная сітуацыя. А прычына яе заключаецца ў тым, што нямецкія вайскоўцы быццам увогуле не прадбачылі ані анексіі Крыма, ані вайны з Украінай. Аж не хочацца верыць!

Яўген ВАПА


Супольны здымак аднайменных калектываў «Сунічкі» з Навіцкавіч са сваімі настаўніцамі (злева) і з Белавежы з настаўніцай Анджалінай Масальскай (справа – Ян Карчэўскі)

# Вечарына ў Белавежы ў адборнай кампаніі

Беларускія вячоркі ў Школьна-Прадшкольным комплексе ў Белавежы ладзяць інструктар Белавежскага асяродка культуры Марк Зубрыцкі і настаўніца беларускай мовы ў гэтай школе Анджаліна Масальская. 30 кастрычніка арганізавалі яны беларускую вечарыну ў адборнай кампаніі аматараў спеваў і тэатра. Перад белавежскай публікай беларускія песні спявалі дзве групы калектыву «Сунічкі» з белавежскай школы і вучні Сярэдняй школы ў Навіцкавічах Камянецкага раёна. Па-акцёрску запрэзентаваліся гайнаўскія белліцэісты з тэатральнага калектыву «Драма» з пастаноўкай «Кастынг». Яе сцэнарыстам і рэжысёрам з'яўляецца настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі, які каля дваццаці гадоў апякуецца тэатральнай самадзейнасцю ў ліцэі.

Марк Зубрыцкі і Анджаліна Масальская — аніматары беларускай культуры ў Белавежскай гміне. Марк Зубрыцкі — старшыня Таварыства сяброў Белавежы, працаўнік Белавежскага асяродка культуры, у сваёй гміне арганізуе, між іншым, беларускае мерапрыемства «Рознагалоссе». Разам з Анджалінай Масальскай ладзіць беларускія вячоркі ў школе, а таксама іншыя беларускія мерапрыемствы ў Белавежы. З'яўляецца ён таксама мастацкім кіраўніком калектыву «Ручаёк». Анджаліна Масальская — настаўніца беларускай мовы ў школе ў Белавежы, заснавала тры групы вакальнага калектыву «Сунічкі», якому акампанемент на акардэоне састаўляе Марк Зубрыцкі.

— У супрацы з Анджалінай я пішу праекты, у рамках якіх арганізуем беларускія вячоркі ў школе. Запрашаем на вечарыны вядомых у нашым асяроддзі асоб і самадзейныя калектывы. У рамках праекта купілі мы касцюмы для дзвюх груп школьнага калектыву «Сунічкі», — сказаў Марк Зубрыцкі, які афіцыйна адкрыў беларускую вечарыну ў белавежскай школе.

З Сярэдняй школы ў Навіцкавічах, распалажаных недалёка Камянца, прыехалі вучні са школьнага музычнага калектыву «Сунічкі» і настаўнікі гэтай школы. Аказалася, што ў абедзвюх школах дзейнічаюць аднайменныя калектывы. Першымі перад публікай запрэзентаваліся сярэдняя і старэйшая групы белавежскіх «Сунічак». Цікава спявалі і дэкламавалі па-беларуску вучні з Навіцкавіч, якіх да выступаў падрыхтавала іхняя настаўніца беларускай мовы Юлія Калько. Вучні з дапамогай мультымедыйнай прэзентацыі распавялі коратка пра Беларусь, Брэстчыну, Камянецкі раён, вёску Навіцкавічы і сваю школу. Пасля выступаў пачаўся пачастунак, падрыхтаваны для ўсіх удзельнікаў вечарыны. Вучні з Беларусі гаварылі, што спадабаліся ім выступы белавежскіх вучняў і гайнаўскіх белліцэістаў.

— Мы з белавежскай школай рэалізуем праграму «Міжкультурны дыялог беларуска-польская памежжа», якая доўжыцца да 2019 года. Першапачаткова адбыўся абмен настаўнікамі, цяпер нашы вучні прыехалі ў Польшчу. Будзем чакаць прыезду вучняў з Белавежы. Хаця наша школа рускамоўная, то ў нас, апрача ўрокаў беларускай мовы, па-беларуску школьнікі вучацца гісторыі і геаграфіі Беларусі. Я стала вучыць на беларускай мове новаму прадмету «Мая радзіма Беларусь». Нам цікавая супраца са школай у Белавежы. Дзякуючы таму нашы вучні могуць выязджаць за мяжу, прымаць гасцей і завязваць знаёмствы. Мы, настаўнікі, маем магчымасць пазнаёміцца з працай педагогаў школы ў Белавежы і частку гэтага вопыту прымяніць у сваёй рабоце, — сказала настаўніца беларускай мовы ў школе ў Навіцкавічах Юлія Калько.

Яе сяброўка, таксама настаўніца беларускай мовы Наталля Міхалюк была ў захапленні ад акцёрства старэйшых вучняў, якія запрэзентаваліся з тэатральнай пастаноўкай. Ёй спадабаўся таксама выступ вучняў белавежскай і навіцкавіцкай школ. Такога ж меркавання былі настаўнікі белавежскай школы і белавежская публіка.

— Супраца са школай у Навіцкавічах з'яўляецца прыярытэтнай справай у дзейнасці нашай школы. Хочам, каб нашы вучні непасрэдна кантактавалі з вучнямі ў Рэспубліцы Беларусь, каб на практыцы знаёміліся з беларускай культурай. Сёння спадабаліся мне ўсе музычныя і тэатральныя выступленні, — сказала намеснік


Найстарэйшая група белавежскіх «Сунічак» з акампаніятарам Маркам Зубрыцкім


Тэатральны калектыў «Драма» Гайнаўскага белліцэя ў пастаноўцы «Кастынг»

дырэктара белавежскай школы Барбара Леанюк.

Настаўніца Анна Дулько захапілася цікавай прэзентацыяй беларускіх песень і тэатральнымі здольнасцямі вучняў. За выступамі па-беларуску назіраў таксама дырэктар Школьна-Прадшкольнага комплексу ў Белавежы Кшыштаф Пэтрук.

— Я рада, што ў нас ёсць магчымасць атрымаць сродкі ад МУСіА і ладзіць беларускія вечарыны, падчас якіх можам паказаць бацькам і жыхарам Белавежскай гміны тое, чаму вучым у галіне беларускай культуры ў нашай школе. Удзельнікі нашых мерапрыемстваў маюць таксама магчымасць пазнаёміцца з дасягненнямі ў галіне беларускай культуры асоб і калектываў на Беласточчыне, якіх запрашаем на вячоркі. Я таксама рада, што зрабіла набор у трэцюю, наймалодшую групу «Сунічак», якая яшчэ развучвае беларускія песні і неўзабаве пачне выступаць, — распавяла настаўніца беларускай мовы Анджаліна Масальская.



— Нам цікава вучыцца беларускай мове і выступаць у калектыве «Сунічкі», — заявіла вучаніца Анджаліка Шпаковіч.

— Мая дачка выступае ў «Сунічках» і я цешуся, што пані Анджаліна ўмее заахвоціць дзетак вучыцца роднай мове і разам з Маркам Зубрыцкім так удала вядуць калектыў «Сунічкі», які мае магчымасць выступаць з нашымі песнямі ў розных месцах. Беларускія вечарыны гэта добрая нагода для нас, бацькоў, і жыхароў Белавежы пазнаёміцца з тым, што ў галіне беларускай культуры робіцца ў нашым асяроддзі, — гаварыла маці вучаніцы Іаланта Шпаковіч.

Публіку захапіў тэатральны калектыў «Драма» з Гайнаўскага белліцэя, які запрэзентаваўся з жартоўнай пастаноўкай «Кастынг». Яе сцэнарыстам і рэжысёрам з'яўляецца настаўнік беларускай мовы Ян Карчэўскі.

— Тэатральны калектыў «Драма», якім я апякуюся, дзейнічае ўжо каля дваццаці гадоў. Мы раней выступалі, напрыклад, з «Пінскай шляхтай», фрагментамі «Паўлінкі», паказвалі іншыя п'есы беларускіх аўтараў. Да 60-годдзя літаб'яднання «Белавежа» я напісаў сцэнарый пастаноўкі на аснове твораў «белавежцаў», якую мы паказалі «белавежцам» на юбілеі. Цяпер я напісаў сцэнарый пастаноўкі «Кастынг», якая з гумарам адлюстроўвае тое, што адбываецца ў нашым жыцці. Падрыхтаваць пастаноўку справа нялёгкая, трэба многа трэніравацца, каб усё добра атрымалася на сцэне, — сказаў настаўнік Янка Карчэўскі.

Белліцэісты па-акцёрску запрэзентавалі пастаноўку «Кастынг», сюжэт якой засяроджваецца на працы адмысловай камісіі, што выбірала кандыдатку на жонку для трактарыста Колі. Белліцэісты патрапілі зацікавіць публіку ўмелай ігрой на сцэне і прэзентацыяй паасобных жартоўных, а нават у пэўнай ступені сатырычных сцэнак. Сярод выступоўцаў вылучаліся пераможцы беларускіх дэкламатарскіх конкурсаў і «Беларускай гавэнды».

— Наш настаўнік Ян Карчэўскі напісаў цікавы, жартоўны сцэнарый пра кастынг і як рэжысёр нашай пастаноўкі стараўся так падрыхтаваць нас да выступу, каб публіку трымаць у напружанасці, — заявіла белліцэістка Наталля Васько.

— Я раней многа выступаў на сцэне і гэта дапамагло мне больш адважна іграць у «Кастынгу», — сказаў Яцак Дружба.

— Я добра адчуваю сябе на сцэне падчас дэкламацыі, гавэнды і ў тэатральных прадстаўленнях таксама мне добра выступаецца, — заявіў Хрыстафор Паскробка.

— Падчас рэпетыцый мы многа смяемся, жартуем і добра гуляем. Паміж намі завязалася сяброўства. Аднак мы ведаем, што трэба падрыхтавацца да выступу перад публікай і намагаемся, каб ён быў цікавым. Мы адначасна рады, што выступаем з пастаноўкай па-беларуску, — гаварылі Магда Стоцкая, Юля Пракапюк і Дамініка Пуц. Іх сяброўка Ганна Хомчук дабавіла, што час, скарачаны на рэпетыцыях і на сцэне, гэта прыемна праведзены час, ад якога застануцца новыя досведы і незабыўныя ўражанні.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

## Здаецца, быццам бы гэта ўчора было

З памяццю пры старасці ўсяляк бывае. У аднаго Альцгеймер гаспадарыць паўсюдна, ды чалавек учарашняга дня не памятае, у іншага мінулыя будні рысуюцца быццам бы гэта ўчора было. Пераканаўся я неаднойчы, калі браў інтэрв'ю да ўспамінаў. Вось, хаця б апошнія тэксты аб падзеях пяцідзесяцігадовай даўнасці „Засталіся адно ўспаміны". Калі я пытаўся сяброў-настаўнікаў маладшых за мяне, ці памятаюць такія здарэнні, у якіх мы супольна ўдзельнічалі (гаворка ідзе пра кінаперасоўку), дык пацiскаюць адно плячыма, не памятаюць. А так можа быць. Як тлумачаць псіхолагі, памяць чалавека здольная зафіксаваць здарэнні з дзяцінства ў дэталях, пры гэтым памінае эпізоды з апошніх гадоў.

Запамяталася мне адно здарэнне са школьных гадоў, калі ў Бельску-Падляшскім вучыўся ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Было гэта на зломе навучальнага 1954/1955 года. Я тады вучыўся ў першым класе. У канцы года класная выхавацелька абвяшчала вынікі пераводу ў наступны клас. Калі зачытала, што адна з вучаніц з Белавежы вымушана папраўляць экзамен па прадмеце, дык дзяўчына выскачыла з-за парты ды з плачам кінулася ў дзверы. Вокны ў класе былі адкрыты. Стаяла чэрвеньскае сонечнае надвор'е. Сельскагаспадарчы тэхнікум змяшчаўся па вуліцы Галавескай, 10, і межаваў з шырокай прасторай сенажаці над рэчкай Бялкай. Ад нашай школы мы напрасткі *тудэю* праходзілі на чыгуначную станцыю. Летам у час разводдзя вымушаны былі ўкругавую абыходзіць, бо рэчка выходзіла з берагоў і падступала да школьных агародаў. Калі мы ўгледзелі праз акно, што сяброўка кінулася ў бок рэчкі, дык я, не задумваючыся, выскачыў праз акно і кінуўся за дзяўчынай. Ногі мяне неслі быццам зайчыкавы „скокі". Падбег да дзяўчыны, якая, запутаўшыся, ляжала ў траве. Забраў яе ў школу. Усю дарогу нічога не гаварыла, адно праз плач паўтарала: „Не хачу жыць, не хачу жыць...". Усё закончылася шчаслівым эпілогам. Галіна Шпаковіч, бо аб ёй тут гаворка, здала „папраўку" і шчасліва закончыла школу. Цудоўнае з яе дзяўчо было. Прыгажуня. Рысуецца мне зараз перад вачыма ейны сілуэт: высокага росту брунетка, з падкручанымі доўгімі валасамі і сімпатычным вясёлым тварыкам... Дзякуй Усявышняму, што мяне такою памяццю абдараваў. Каб яна як найдаўжэй пры мне заставалася.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Семяноўка
### — злучае нас вялікая вада

Падсумавалі фатаграфічны конкурс пад загалоўкам „Семяноўка — злучае нас вялікая вада" (пра Семяноўскае вадасховішча на тэрыторыі Міхалоўскай і Нараўчанскай гмін). Арганізавалі яго Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы Гайнаўскага павета і Майстэрня фільма і фатаграфіі ў Міхалове Беластоцкага павета.

Першае месца заняла Іаанна Белюці з Крынак. Былі і вылучэнні для Юліты Ляткоўскай з Бандароў Міхалоўскай гміны і Яна ЗдаНоўскага (ён робіць фотаздымкі і вядзе хроніку ляшуцкаміхнаўскага Таварыства „Ятрышнік") з Плянты Нараўчанскай гміны.

Зараз прыгожыя ўзнагароджаныя і астатнія здымкі г.зв. Семяноўскага возера і яго наваколля можна агледзець на выстаўцы ў ГАК у Нараўцы ў гадзінах працы дома культуры. Арганізатары запрашаюць.

**(яц)**

# Мае Дзяды



Фота Аляксандра Вярбіцкага

**Памяць прыгнятае. Нехта святкуе памінкі раз у год, нехта пяць разоў, а я — штодзень. Прыгнёт лагічны, лірычна-салодкі і цёплы, быццам напаленая печка. Жыву Дзядамі так, як жыве імі беларуская тоеснасць і польская драматургія.**

У Крынках тэрмін «Дзяды» асацыюецца перш за ўсё з дагеркавым жабрацтвам, з масавым жабраваннем у вялікія святы пад касцёламі і цэрквамі, з жабраваннем на могілках у Радаўніцу, урэшце са штодзённым жабрацтвам па хатах. Увайшоўшы ў чужую хату, дзяды зразу падалі на калені і, зазіраючы святым кутам у вочы, маліліся за памерлых. Здаецца, калісь бачыла я такую жабрачку ў маленькай хатцы-мазанцы сваёй намоленай бабулі. А можа ўсё гэта мне толькі прыснілася, прытым на яве. Цяжка раздзяліць рэальнасць ад уяўленняў, сонную мару ад прадукту падсвядомасці. Не прывязваюся да ўсякага роду прадметаў. Яны прыгнятаюць мяне, быццам кепская кніжка. Непакояць, атручваюць хатняе паветра. Але ўсякія прынцыпы пацвярджаюцца выключэннямі. Быццам святасць зберагаю некаторыя спантанныя падарункі. Падарунак у гэтым выпадку абазначае рэч уласнаручна мне перададзеную альбо такую, якую атрымліваю шляхам рацыянальна не падлягаючым тлумачэнням. Іконку Ксеніі Пецярбургскай напісала, між іншым мне, Тамара Болдак-Яноўская. Яе муж, як найбольш сур'ёзна сказаў, што гэтая ікона мае сапраўдную моц. Ніякім чынам не звязваю цудоўнага ўздзеяння іконы з чытаннем адпаведнага акафіста. На маім падаконніку, побач той жа сапраўднай, каляровай, узорыстай іконы, паявіўся чорна-белы архіўны здымак сапраўднага пецярбургскага анёла. Так прынамсі сцвярджаў прадавец з Фантаннага дома, памерлы роўна шэсць гадоў назад. У шафе ляжыць лёгкая, быццам туман, вышываная нябеснай ніткай крымская сарочка Аляксандры. Адзяваю яе ў асноўным на свой дзень нараджэння. Гэта адзіная форма адзначэння мною гэтага дня. Так і не помню, каб людзі, якія мне ўсё гэта падаравалі, прасілі малітвы. Хутчэй за ўсё патрабавалі толькі памяці. Добрая памяць лепшая за штучную малітву. Хаця яшчэ знаходзяцца сярод жывых, калі няма іх побач, зліваюцца з уяўленнямі аб памерлых, увасабляючы ідэі, а падараваныя імі рэчы набываюць сімвалічную вартасць тых жа ідэй. Пад маім ложкам ляжыць найпрыгажэйшы на свеце, пушысты, персідскі дыван. Падарунак ад Варвары. Любімая чорная шарсцяная хустка ў чырвоныя ружы паходзіць яшчэ ад яе палтаўскай прабабулі. Вельмі праўдападобна, што прабабуля закупіла яе на праслаўленым Гогалем Сарочынскім кірмашы. Дзядамі з'яўляецца таксама драбленне любімага кабачковага супу ў Варварыным якасным блендары. Ці аддаючы мне сваё найвялікшае багацце прадчувала хуткую смерць? Не помню ці прасіла малітвы, магчыма што так. Была вельмі веруючай праваслаўнай. А я шукала нагоды, каб закупіць за яе душу запіскі, найлепш у родных ёй украінскіх манастырах. Калісь, будучы ў Пачаеве, здалося мне, што яе ўбачыла. Вялікія каштанавыя вочы, просты, арыстакратычны нос, доўгія, густыя косы. Аказалася, што на Украіне такіх вачэй і насоў шмат у кожным завулку. Часам наведвае мяне ў сне, так як і жывыя — сімвалы якіх зберагаю.




Фота Аляксандра Вярбіцкага

Мае Дзяды гэта таксама спазіраючы са сцяны партрэт бабулі Веры і прабабулі Марыі — дзвюх святых пакойніц. Адну паклікалі ў Царства Нябеснае ў пасхальную ноч, другую — зараз пасля ўспенскай літургіі. Адзіная памятка, выратаваная з бабулінай, быццам манаскай келлі, гнілой мазанкі, не лічыўшы некалькіх царкоўных кніжак, яшчэ дабежанскіх, выкапаных з ямы з-пад бульбы пасля трагічнага вяртання. Чырвоныя і зялёныя капы з'яўляюцца вечнай памяццю пра майстрыху — бабулю Надзю. А цэлая мая хата ў асноўным зберагае душу яе будаўніка — балахоўскага казака Васіля Моршчына і яго начытанай і намоленай крынскай жонкі Ксеніі. Так як і яе пецярбургская праслаўленая імянінніца хутка страціла любімага мужа. Са ссылкі ў Сібір ніколі не вярнуўся. Сваё ўдавінае жыццё крынская Ксенія прысвяціла двум сынам, працы ў мясцовым шпіталі і малітве.

Але так як і ў Міцкевічавай драме не ўсе Дзяды добрыя і шчаслівыя.

Мая дачка Таня шматфункцыянальным мабільнікам спраўджвала, ці па нашай хаце не вандруюць нейкія няпрошаныя духі. Не знайшла іх ні ў кухні, ні нават у туалеце. Толькі што чула аповед маёй вельмі рэлігійнай крынскай сяброўкі. Жыве яна ў поўнай слёз былых гаспадароў жыдоўскай хаце. Зноў ёй надакучалі. Апошнім разам роўна на мінулагодніх Дзядах. На яе ложак прысела старая жыдоўка, потым былі энергетычныя выспяткі ў спіну і дзынканне гарбатняй лыжачкі ў шклянцы. На сёлетнія Дзяды паліўся дождж светлавых, быццам зоркі, шарыкаў. Ляталі па цэлай хаце. Усю незвычайную акцыю запісала яна на камеру свайго мабільніка. Некаторыя не верылі, нават калі ім гэта паказвала. Усё тлумачылі тэхнічным эфектам снегу, які спантанна ўключыўся ў тым жа мабільніку. Пачалося з таго, што прывалакла яна дахаты вазоны з могільніка, каб іх упарадкаваць, рассадзіць кветкі. Першы шарык засвяціўся менавіта ў кветках. Калі ўключыла камеру, шарыкі раптам размножыліся і пачалі разлятацца ва ўсе бакі. Не дапамаглі малітвы. Здаўшыся, але не налякаўшыся, лягла спаць. У чарговы вечар усё паўтарылася, пакуль не абсыпала ўсіх куткоў хаты экзарцызаванай соллю. Марыць, каб нарэшце выселіцца з гэтай праклятай хаты, вызваліцца ад пакрыўджаных, трагічных душ, якія нават не паспелі прабачыць сваім злачынцам. На жаль, не мае куды.

**Іаанна ЧАБАН**

# У арлянскай школе

Штогадова арлянскія гмінныя радныя атрымліваюць пісьмовую інфармацыю пра рэалізацыю асветных задач у гміне.

У Пачатковай школе з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Орлі ў навучальным 2017/2018 годзе працуе 36 настаўнікаў (у мінулым 34). Адміністрацыйнага і абслуговага персаналу 20 асоб, у тым ліку чатыры асобы ў якасці памочнікаў настаўнікаў — дзеля задавальнення дадатковых адукацыйных патрабаванняў для пяці вучняў. Адна асоба занята ў рамках інтэрвенцыйных работ і адна ў рамках публічных. У абагравальным сезоне працуюць 3 качагары. У школе вучыцца 210 вучняў, летась было 209. У школе два дашкольныя аддзяленні і клас шасцігодкаў.




http://www.orla.szkola.pl




З верасня 2017 года згодна закону Комплекс школ у Орлі перафармаваны ў Пачатковую школу з дадатковым навучаннем беларускай мовы. Дырэктар Комплексу стаў дырэктарам Пачатковай школы і будзе займаць гэту пасаду да 31 жніўня 2021 года.

У навучальным годзе 2017/2018 у перафармаванай пачатковай школе будуць прадаўжаць навуку дасюлешнія класы ранейшай гімназіі аж да часу заваршэння навукі.

**Сацыяльныя стыпендыі**

Гэтай законнай формай дапамогі карыстаюцца пражываючыя на тэрыторыі Арлянскай гміны вучні пачатковай школы, гімназіі ды таксама вучні звышгімназічных школ. Прыбытковы крытэрый для гэтай дапамогі складае 514 зл. на аднаго сямейніка.

У школьным 2016/2017 годзе пададзены былі 43 заяўкі, з якіх станоўчую ацэнку атрымала 41 заяўка; дзве заяўкі не задаволілі патрабаванняў крытэрыю.

Агульныя затраты на гэтыя стыпендыі склалі амаль 25 тысяч злотаў (з гэтага звыш 11 тысяч з дзяржказны).

Іншай формай матэрыяльнай дапамогі рэалізаванай гмінай быў школьны пасаг — дафінансаванне на куплю падручнікаў атрымала адна вучаніца гімназіі.

У 2016 годзе Арлянская гміна атрымала датацыю звыш дванаццаці з паловай тысяч на абсталяванне пяці класаў пачатковай школы і двух класаў гімназіі падручнікамі і дапаможнымі матэрыяламі. Датацыя на 2017 год — амаль 23 тысячы злотаў.

Арлянская гміна ў 2016 годзе атрымала мэтавую датацыю 57 540 зл. на дафінансаванне задач дашкольнага выхавання. Датацыя будзе прызначана на бягучыя расходы. Датацыя на 2017 год — амаль 47 тысяч злотаў.

На давоз вучняў у школу ў 2016/2017 годзе Арлянская гміна затраціла амаль 13 тысяч злотаў.

**Стыпендыя войта за выдатныя вынікі навукі**

За І паўгоддзе школьнага 2016/2017 года стыпендыю агульнай вартасцю ў шэсць з паловай тысяч злотаў атрымалі 13 вучняў. За І паўгоддзе — 20 вучняў, у тым ліку сем завяршаючых навуку, на агульную квоту 10 700 зл. Да 22 жніўня 2017 года выплачана 11 тысяч. Апошняя квота будзе выплачана да студзеня 2018 года.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Супрацьпажарная ахова ў Арлянскай гміне

Штогод гмінныя радныя атрымліваюць інфармацыю пра рэалізацыю задач па супрацьпажарнай ахове — з Гміннай управы ды ад каменданта Дзяржаўнай пажарнай аховы ў Бельску-Падляшскім.

Зараз у Арлянскай гміне 124 актыўныя пажарнікі (у 2016 годзе было 136, у 2008 — 145). Пры арлянскай камандзе дзейнічае жаночая дружына з васьмі асоб ды моладзевыя дзявочая і хлапечая па дзесяць асоб кожная. У паасобных камандах Арлянскай гміны розныя лікі пажарнікаў: у Орлі 43 пажарнікі (у 2016 г. — 50), у Малінніках 22 (28), у Рыгораўцах 10 (11), у Вульцы-Выганоўскай 8 (8), у Градалях 15 (10), у Рудутах 13 (13) і ў Спічках 13 (16).

За перыяд з 1 жніўня мінулага года да 31 жніўня бягучага на ўтрыманне пажарных каманд выдаткавана пад 83 тысячы злотаў (у 2016 годзе амаль адзін мільён; таму, што былі інвестыцыйныя выдаткі), у тым ліку на паліва і рамонты тэхнікі звыш 65 тысяч, эквівалент пажарнікам за ўдзел у акцыях — пад пяць з паловай тысяч, страхоўка пажарнікаў і дэпо — за восем тысяч, перыядычныя абследаванні і абучэнні — за тры з паловай тысячы.

Пастановай Гміннай рады ад 24 жніўня 2016 года эквівалент пажарнікам за ўдзел у тушыльных акцыях быў узбуйнены з 10 злотаў да 15 за гадзіну.

На тэрыторыі Бельскага павета ў 2016 годзе панізіўся на 7% лік небяспечных здарэнняў. У катэгорыі мясцовых пагроз лік інтэрвенцый пабольшаў на 93 здарэнні (на 29%). У катэгорыі пажараў іх лік паменшаў на 140 інтэрвенцый (на 51%). Рост мясцовых пагроз быў выкліканы галоўным чынам навальніцай, якая прайшла над паветам у чэрвені. Да гэтага росту прычыніліся таксама дзеянні звязаныя з афрыканскім морам свіней. Істотны спад ліку пажараў быў вынікам стабільнай тэмпературы ў летнюю пару.

На тэрыторыі Арлянскай гміны ў 2016 годзе было 35 здарэнняў (6% ад агульнага ліку ў павеце). З 1 студзеня да 31 жніўня 2017 года былі 32 здарэнні (8%), у тым ліку 7 пажараў (у Вышкаўскай гміне — 12, у Боцькаўскай — 13, у Бельскай — 31, у самім Бельску — 49). Было 12 фальшывых паведамленняў аб трывозе: 10 з Бельска-Падляшскага і па адным з Бельскай і Боцькаўскай гмін.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Дарогі пакрысе рамантуюць

Сярод нашых ніўскіх чытачоў ёсць ініцыятыўныя людзі. Адзін з іх — Віталь Скепка, які жыве на калёніі Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ён у пастаянным кантакце з новаляўкоўскім радным і солтысам ды яшчэ і карэспандэнтам беларускага штотыднёвіка «Ніва». Ахвотна падказвае тэмы для допісаў і артыкулаў. А калі трэба, дык падвязе карэспандэнта на сваёй аўтамашыне. Бывала, едзе па вуліцы ў Нараўцы, а тут на аўтобусным прыпынку солтыс з яго вёскі чакае аўтобуса, каб даехаць дадому. Спадар Віталь забярэ з сабою і падвязе, як кажуць, «пад самую хату».

12 лістапада г.г. Віталь Скепка папрасіў мяне пацікавіцца, як дайсці з асфальтавай дарогі, як кажуць, сухой нагою на парог крамы ў Плянце. Тут перад крамай стаяць вялікія лужы. У краме часта робяць пакупкі жыхары Новага Ляўкова, бо ў гэтай вялікай вёсцы (у ёй 101 дом) краму ГС беспаваротна закрыла 15 кастрычніка г.г. Тут справа для старшыні ГС. Яе магла б паведаміць прадаўшчыца. Але пакуль што нічога ў гэтай справе не робіцца. Мабыць, солтыс Плянты і радна пра гэта не ведаюць або не хочуць ведаць. Мясцовы солтыс тут робіць пакупкі і пэўна думку думае, мо няхай хто іншы гэтым займецца. Мне, карэспандэнту, калі я спытаў жыхароў Плянты, на чыім участку стаіць крама, сказалі, што на ўчастку ПКП, значыць ГС мае яго ў арэндзе ад чыгункі. Я папрашу развязаць праблему старшыню Наглядальнай рады ГС. Вось у плянтаўскай краме не прадавалі курыных яек. Справа цягнулася гадамі. А старшыя рады ГС дамогся на працягу аднаго тыдня. І яйкі пачалі прадаваць.

А зараз яшчэ пра нашага руплівага чытача з Новага Ляўкова. Ён узяў справу ў свае рукі і «выхадзіў» у Гміннай управе ў Нараўцы (пры тым не ангажаваў войта), каб адрамантавалі гмінную пясчаную дарогу ад асфальтавай № 687 на калёнію да Скепкаў (дзве сям'і) і Дзенісаў (адна сям'я), далей да Людмілы і Барыса Казлоўскіх (яны вядуць агратурыстычную гаспадарку «Бора-здруй») і Ірэны Казлоўскай ды да Бажэны і Рамана Несцерукоў.

Варта дадаць, што вышэйзгаданую дарогу і іншыя выраўнялі ўлетку гэтага года па прапанове солтыса і заадно радная. Лета было, а восень зараз даждлівая і «мяккая» дарога зрабілася ўхабістай. Дабрага жвіру на яе пашкадавалі ў мінулым годзе і сёлета. Вясной бягучага года войт Нараўчанскай гміны не на адной сесіі Гміннай рады гаварыў, што жвір мае. Крыху яго трапіла на кавалак адной палявой дарогі на калёніі ў новаляўкоўскім сялстве. Добра і гэта.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Нас возяць прыватныя аўтобусы

Ужо шмат гадоў у Гайнаўцы дзейнічае суполка, якая займаецца пасажырскім транспартам. Возіць яна людзей з Гайнаўкі, Дубін, Навасадаў, Скупава, Нараўкі, Новага Ляўкова, Старога Ляўкова, Лешукоў і іншых навакольных вёсак на працу, між іншым, у Семяноўку і ў Бандары ды назад дадому. Паслугамі суполкі карыстаюцца перш за ўсё жыхары Гайнаўскай і Нараўчанскай гмін, найбольш з тых вёсак, праз якія не ездзіць ні адзін аўтобус ПКС. Прыватныя аўтобусы ездзяць у Гушчэвіну, Альхоўку, Забрады, Прэнты, Семяноўку, Тарнопаль, Лазовае і ў Новае Ляўкова, але таксама і ў Міклашэва і ў Лесную. Прыватнымі аўтобусамі даяздждае моладзь з Нараўчанскай гміны ў школы ў Гайнаўцы ды вяртаецца дадому.

Цяжка падумаць, што было б, калі б не ездзілі ў нас прыватныя пасажырскія аўтобусы. Ужо чатыры гады прыватны аўтобус ездзіць дадаткова пасля 10 гадзіны раніцы ў Лешукі цераз Гарадзіска, Плянту ды Новае і Старое Ляўкова. Раней ён ехаў толькі ў Нараўку і вяртаўся ў Гайнаўку. За гэты курс даплачвае гміна. Добра, што прыватныя аўтамашыны ездзяць раніцай і вечарам па суботах і нядзелях. У суботу можна таксама выехаць з Гайнаўкі ў вёскі Нараўчанскай гміны а гадзіне 12 і праз паўтары гадзіны вярнуцца ў горад.

Варта адзначыць, што прыватныя аўтобусы — не хачу іх перахваліць — ездзяць рэгулярна згодна з раскладам язды. Робяць усё магчымае, каб давезці пасажыраў на час. Дзякуй і хвала ім за гэта. Ездзяць па ненайлепшых дарогах. Зімой на іх маставыя не сыплюць пяску нават у час галалёдзіцы. Іншыя прыватныя фірмы пасажырскага транспарту не захацелі пусціць сюдою сваіх аўтобусаў, між іншым, «Voyager».

Для жыхароў меншых і большых вёсак абязлюдзелай г.зв. усходняй паласы нашай краіны вельмі важна, што ўсётакі могуць даехаць у Гайнаўку. Адтуль ім ужо лягчэй дабрацца ў Беласток або ў сталіцу нашай дзяржавы ды ў шырокі свет. У тым выпадку прыватная фірма вельмі дапамагае ў падарожжы.

Янка ЦЕЛУШЭЦКІ

# Старыя тапалі пры дарозе

Паўсотні старых ды з гнёздамі амялы таполяў стаіць пры 3-кіламетровай гравійцы з Гарадзіска ў Плянту ў Нараўчанскай гміне. З сухіх дрэў звісаюць і падаюць у равы галіны. Некаторыя дрэвы пераламаў напорысты вецер. Старых ды сухіх дрэў чамусьці не сякуць. Прыдаліся б яны зараз на апал. Хутка прыйдзе халодная зіма і дроў трэба, каб напаліць у печы.

Каб ссячы сухія тапалі ў Плянтаўскім сялстве, не дамагаюцца ў войта ні радна, ні солтыс. Радна гэтай дарогай ездзіць на працу і вяртаецца дадому. Але ёй — так мовіць — хоць бы «дзічкі». Але ўсё бывае да пары. У ветраны дзень ці такую ж ноч сухія тапалі і іх галіны могуць упасці на дарогу. Перш за ўсё гэта небяспека для пражываючых тут людзей, якія ездзяць і ходзяць па справах у Нараўку, а тут, між іншым, школа, касцёл, царква, гмінная ўправа, рэстараны, амбулаторыя, аптэка, гмінны асяродак культуры, банк, пастарунак паліцыі, пошта і крамы. Варта дадаць, што Плянта налічвае 157 чалавек.

(яц)





Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# з*рка

для дзяцей і моладзі



# Белавежа стаіць беларускай песняй!

Гэтую сустрэчу можна назваць гістарычнай. Раніцай, 7 лістапада г.г., у «Ніву» першы раз завіталі школьнікі з Белавежы. Разам з сабой прывезлі чароўныя песні і цёплы настрой.

А трэба дадаць, што дарога ў адзін бок цягнулася дзве гадзіны.

Ужо з парога нашы сябры заявілі, што абыдземся без перакладчыкаў. На пачатку мы спыніліся пры асобе Георгія Валкавыцкага, першага рэдактара «Нівы», родам з Белавежы. Моладзь добра ведала пра каго ідзе мова. Уля Байко назвала гады, у якіх жыў іх слаўты зямляк і запамятала, што кіраваў ён газетай больш за 30 год. Але не гэта ўразіла найбольш:

— Перад Святам памерлых мы сходзілі на могільнік запаліць зніччы на яго магілцы, — адзначыла настаўніца Ангеліна Масальская.

За гады працы настаўніцы ўдалося прыцягнуць да беларускай мовы трэцюю частку ўсіх навучэнцаў школы. Прыгожую частку гэтай кампаніі складаюць сябрыпалякі.

Можна сказаць, што сучасная Белавежа стаіць беларускай песняй. Ім пашанцавала не толькі з настаўніцай, але і з музыкантам Маркам Зубрыцкім. У школе ў музычным калектыве «Сунічкі» працуюць тры групы. У дзяўчат з найстарэйшай групы сцэнічны вопыт. Калі пад гармонік яны праспявалі «Вёсачку», мы абвясцілі ў знак прызнання:

— Здаецца, кончылася ў нас нудотная эра плэйбеку!

Таксама малодшыя «Сунічкі» развесялілі ўсіх бадзёрай песняй пра коніка.

Як аказалася, песню спадар Марк знайшоў у Беларусі.

— А нашы вучні як толькі пачулі, адразу схацелі яе развучыць, — дадае настаўніца.

У Белавежы ўжо наладзілі сяброўскія адносіны са школай у Навіцкавічах. Госці з Беларусі нядаўна наведалі Белавежу. Нашы сябры збіраюцца нанесці візіт у адказ і на другім баку пушчы разам пашырыць веды пра пушчанскія песні, казкі, звяроў і дрэвы.

Для нашых чытачоў слова «Белавежа» асацыюецца яшчэ з беларускім літаратурным аб'яднаннем у Польшчы. Заснаваў яго згаданы ўжо рэдактар Георгій Валкавыцкі. Сярод пісьменнікаў-белавежцаў ярка праявіла сябе Алена Анішэўская, родам з Падаляnaў. Пісьменніца большасць жыцця пражыла ў Варшаве, аднак ёй хацелася пісаць толькі пра пушчанскую прыроду і колішніх жыхароў Белавежы.





Адначасова быў час, каб пагаварыць пра актуальныя тэмы і навінкі.

Каб паказаць прыгожасць мастацкага слова, мы папрасілі паэтку Міру Лукшу, каб яна зачытала вершы з новага зборніка «Спеў дрэў». Для беларусаў песні і дрэвы гэта амаль сінонімы. У час, калі паэтка чытала свой задуменны твор пра яблыню, запанавала такая ціш, быццам спявала душа...

Што тут дадаць — візіт белавежскіх вучняў вельмі нас уцешыў. Пасля нашы сябры наведалі яшчэ Радыё Рацыя.

**ЗОРКА**

Фота Ганны Кандрацюк

## УВАГА КОНКУРС! № 47-17

**Ён пушысты, быццам вата,**
**Будзе цёплая ў нас хата,**
**Бо не ўсуне дзед-мароз**
**У шчыліны доўгі нос.**

**М..**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку" да 26 лістапада 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 44: серп. Узнагароды, «Паштоўкі ад Лявона», выйгралі Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Іаанна Нікіцюк, Магдалена Якубюк з Бельска-Падляшскага. Віншуем!**

# Бягучы 2017 год — год Тадэвуша Касцюшкі

З гэтай нагоды мы прысвяцілі ўжо некалькі артыкулаў Тадэвушу Касцюшку — герою Польшчы, Беларусі і Амерыкі. Сёння вашай увазе прапануем знакаміты нарыс Уладзіміра Арлова «Паўстанне Тадэвуша Касцюшкі».

**Правадыр змагароў**

Тадэвуш Касцюшка належаў да старажытнага беларускага роду. Ягонае дзяцінства прайшло ў бацькоўскім маёнтку Мерачоўшчына паблізу мястэчка Косава (цяпер Івацэвіцкі раён Берасцейскай вобласці). Сям'я Касцюшкаў жыла ў сціплым драўляным доме пад саламянай страхой. Шмат вандруючы па свеце, Тадэвуш потым часта ўспамінаў прыгожыя беларускія краявіды вакол ракі Шчары, у якой у дзіцячыя гады любіў купацца і вудзіць рыбу.

Спачатку хлопчык засвойваў навуку ў недалёкай ад роднага дома навучальні манахаў-піяраў. Тут ён вывучаў гісторыю і лацінскую мову, матэматыку і фізіку, красамоўства і культуру паводзін.

Пасля вучэльні Касцюшка паступіў у Варшаўскі кадэцкі корпус. Такія корпусы рыхтавалі афіцэраў для войскаў Польшчы і Княства Літоўскага. У тыя гады сябры празывалі Тадэвуша «Шведам з-пад Берасця».

Такую незвычайную мянушку ён атрымаў за тое, што хацеў быць падобным да выдатнага палкаводца — шведскага караля Карла XII. Беручы з яго прыклад, Касцюшка штодня падымаўся а чацвёртай гадзіне раніцы. Каб не заснуць, ён апускаў ногі ў пастаўленую пры ложку балею з ледзяной вадой. Так ён загартоўваў сваю волю.

Вайсковую навуку Тадэвуш працягваў у Парыжы. Грошай ён меў мала, і часта сняданак і вячэра ў яго былі аднолькавыя — булка і шклянка кавы. І ў кадэцкім корпусе, і ў Парыжы Касцюшка займаўся яшчэ і маляваннем. З яго мог бы атрымацца доры мастак, але лёс склаўся іначай.

*(працяг будзе)*


*Белавежа ў Ніве*


*Школа Піяраў у Любашове, дзе вучыўся Касцюшка*

(Байкі сярэднявечнай Арменіі)

# Рак і ліса

Ліса і рак завялі суполку. Яны разам пасеялі, пажалі і змалацілі пшаніцу і згарнулі яе ў вялікую кучу каля клуні.

Ліса кажа:

— Хто першы з нас дабяжыць да клуні, той возьме сабе пшаніцу.

— Згодны! — пагадзіўся рак.

Перад гонкай ён папрасіў у лісіцы.

— Каб ведаць, калі мне за табой бегчы, калі ласка, на знак старт, удары мяне хвастом.

— Добра, дамовіліся!

У той момант, калі ліса споўніла жаданне, рак раскрыў шчыпцы і ўчапіўся за хвост. Прыбегла лісіца да кучы зерня, абярнулася паглядзець, дзе яе канкурэнцыя…

Тым часам рак упаў на кучу і пераможна заявіў:

— Ну, за такую перамогу мне належаць сама меней тры меркі пшаніцы.

У адказ ліса разявіла рот і, не хаваючы здзіўлення, запытала:

— А якім цудам ты, браток, так маланкава прыбег?

*(пераклад з рускай мовы Ганны Кандрацюк)*

**Паўліна Вэпа,**
Тыльвіца, Школа ў Міхалове

## Позняя восень

Прыйшла восень
і даждж[о]м нас страшыць,
Дрэвы лісты пагубілі,
Каб звяры імі гулялі,
Сонца амаль не свеціць,
У дамах сядзяць дзеці.
Пуста ў лясах, садах,
Халадней ужо нам.
Я аднак любуюся ў восені.
А зімы не баюся!

## Польска-беларуская крыжаванка № 47-17




Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 43-17:** Гара, слова, удод, дождж, клад, жураўлі, лыка, ізюм, як, чарка. Вожык, жук, Ас, драч, лужа, код, воклік, падліза, дыядэма.

Узнагароды, каляровыя алоўкі, выйгралі **Анна Кендысь, Аляксандра Іванюк** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Ася Нікіцюк** з КШ з ДНБМ у Бельску-Падляшскім, **Зузанна Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

# Неверагодная руплівіца Праваслаўя Анна

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

**— Кніга «Блізкі мне Усход» з’яўляецца запісам маіх доўгіх вандровак, як журналісткі, на Усход, дзесьці ад Белага мора на поўначы да Міжземнага і Чырвонага мораў на поўдні, па шырокім поясе зямлі, сфармаваным усходнім хрысціянствам. Гэта запіс таго, што я пачула на многіх канферэнцыях, арганізаваных у Польшчы і за мяжой, падчас якіх, няраз у запале дыскусіі, гартаваліся погляды пра гісторыю і духоўнасць хрысціянскага свету Усходу. Гэта плён кантактаў з мудрымі людзьмі, якія падзяляліся сваімі думкамі са мной падчас размоў ці запісалі іх у кнігах. Гэта таксама плод майго імкнення да разумення складанасці гэтага свету, у якім шматлікія пытанні не з’яўляюцца ані відавочнымі, ані адназначнымі, як, напрыклад, абрэзаныя для патрэб падручнікаў веды, якія часта фармуюцца пад ідэі гістарычнай палітыкі... Кніга не ўзнікла б, калі б не мая праца ў штомесячніку «Przegląd Prawosławny», якая папаўнялася іншымі сферамі дзейнасці, такімі як рэдагаванне часопіса Сусветнай Рады Цэркваў «Самаритян», рэдагаванне падручнікаў для вывучэння мовы, культуры і гісторыі Беларусі, а таксама рэдагаванне і пісанне іншых кніг, удзел у стварэнні дакументальных фільмаў для TVP, датычных праваслаўя.**



Падляшская ксёнжніца імя Лукаша Гурніцкага ў Беластоку і Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства запрасілі на ўрачыстую прамоцыю альбома «Bliski mi Wschód» Анны Радзюкевіч 7 лістапада. Анна Радзюкевіч — журналістка. Працаваць пачала ў 1977 годзе ў завадской газеце «Fasty». З 1982 года працавала ў газеце «Gazeta Współczesna», а з пачатку 90-х у часопісе «Przegląd Prawosławny» ў якасці намесніка галоўнага рэдактара. Адначасова ў 1995-2000 гадах была галоўным рэдактарам часопіса Сусветнай Рады Цэркваў «Самаритан» міжнароднага абсягу. Аўтарка некалькіх тысяч артыкулаў у замежнай прэсе (Расія, Украіна, Беларусь, Фінляндыя) і ў кнігах ды канферэнцыйных зборніках. З’яўляецца аўтаркай кніг «Prawosławie w Polsce» (2000 і 2001), «Light from the East» (Святло з Усходу) (2005), «Na Wschód od Zachodu» (2008), «Gródek nad Supraślą» (2011), «Parafia Hagia Sophia w Białymstoku» (2014), «Monaster w Supraślu» (2014 і 2015), «Święta Góra Grabarka» (шмат выданняў), «Bliski mi Wschód» (2017). З’яўляецца таксама рэдактаркай падручнікаў, рэалізаваных па заказе Міністэрства адукацыі, адрасаваных вучням беларускай меншасці ў Польшчы. Арганізавала выставы: «Prawosławie w Polsce» (2004), «Książę Konstanty Bazyli Ostrogski» (2008), «Otwarte Podlasie» (2009), «Bieżeństwo» (2015), «500 lat Biblii Ruskiej Franciszka Skaryny» (2017). З’яўляецца сааўтарам дакументальных фільмаў, рэалізаваных для TVP, набліжаючых свет праваслаўя, а з 2002 года яна — старшыня Фонду імя Князя Канстанціна Астрожскага, выдаўца штомесячніка «Przegląd Prawosławny» і кніг, які таксама рэалізуе праграмы міжнароднай дапамогі, падрыхтаваныя па заказе Міністэрства замежных спраў РП. У 2017 г. Анна Радзюкевіч адзначае саракагоддзе працы ў прафесіі журналіста.

Анна Радзюкевіч родам з Ласінян на Сакольшчыне. Атрымала: Ордэн св. Марыі Магдаліны I і II ступені, Узнагароду брата Альберта, Ордэн св. Нестара-Летапісца атрыманы ад Украінскай Праваслаўнай Царквы, Ордэн святой Еўфрасінні Полацкай — ад Беларускага Экзархата Праваслаўнай Царквы, Узнагароду Князя Канстанціна Астрожскага, Залаты Крыж Заслугі, адзнаку Заслужаная Беласточчыне, Рыцарскі крыж Ордэна Адраджэння Польшчы.

— «Блізкі мне Усход» кранае між іншым пытанні аб спадчыне Рымскай імперыі ў абедзвюх частках Еўропы — усходняй і заходняй, хрысціянізацыі Польшчы і Літвы, успрыманне ідэі Рэнесансу Усходам і Захадам, уплыў навукі, якая выплывала з пустынь і манастыроў на абедзвюх частках кантынента. Абшару рускай рэлігійнай і культурнай спадчыны надаю больш за ўсё месца, назіраючы за ім у люстэрку візантыйскага свету, балканскага, але і заходняга. Гэта глыбока асабістая кніга, у якой не хаваю сваіх роздумаў, але і не размываю слядоў вандровак па шырокім поясе *slavia orthodoxa*. Але ў той жа час гэта калектыўная праца. Спасылаюся ў ёй на думкі і назіранні многіх асвечаных розумаў і адухоўленых сэрцаў. Некаторыя кнігі могуць нараджацца на працягу паўгода або года, але іншыя даспяваюць гадамі — у вандроўках, праверках, параўнаннях. Да гэтых другіх належыць «Блізкі мне Усход», як і папярэдняя кніга «Na Wschód od Zachodu» (2008).




Як супрацоўнік выдання «Przegląd Prawosławny» журналістка за гэтыя гады працавала на ніве распаўсюджвання праваслаўнай рэлігіі і культуры ў Польшчы і ў свеце. Плёнам яе руплівай працы з’яўляецца прыгожы і багаты альбом «Блізкі мне Усход». Аўтарка ў чарговы раз нахіляецца над гісторыяй яе веравызнання, збіраючы і дакументуючы свае назіранні і развагі, а таксама веды, здабытыя падчас вандровак, навуковых канферэнцый, і перш за ўсе размоў з людзьмі, якія ўдзельнічаюць у даследаваннях над праваслаўнай духоўнасцю і культурай.



Выданне гэтае — скарбніца гістарычных ведаў аб Рускім Свеце, якія Анна Радзюкевіч дапаўняе сваімі развагамі. Адчуваецца яе агромны эмацыйны запал і сувязь з культурай, вывучэнне якой магчымае дзякуючы шматгадовым даследаванням і падарожжам па Усходзе. Альбом «Блізкі мне Усход» падводзіць увесь навуковы і духоўны вопыт аўтаркі, а яго вялікай каштоўнасцю, безумоўна, з’яўляюцца выдатныя фатаграфіі месцаў пакланення Праваслаўнай Царквы, ікон і храмаў, размешчаных на доўгім шляху хрысціянскага Усходу.

Анна Радзюкевіч спасылаецца на навуковы вопыт прафесар Мар’і Янён у кнізе «Niesamowita Słowiańszczyzna» і іншых: «Кнігу прафесар Янён я разглядаю ў якасці ўзнагароды для тых, хто ў Польшчы ўпарта трымаецца сваёй рускасці, усходнясці і праваслаўя. Вядучая польская інтэлектуалка легітымізуе іх прысутнасць на гэтай зямлі.

А мы? Пры гэтым чытанні мы больш глыбока ўсведамляем сабе радасны стан сваёй душы. Яна ніколі не была ў стане шарпаніны паміж Усходам і Захадам. Не была так як польская, каталіцка разарванага, якая належала да славянскага свету, а ўвесь час, на працягу многіх стагоддзяў, тужыла па Захадзе. Мар’я Янён была маім аўтарытэтам, па-свойму і настаўнікам. І станам разарвання ў маёй маладосці. Я была ёю зачараваная і ўстрывожаная, недзе чвэрць стагоддзя таму. Кожная з яе кніг, лекцый, сустрэч адразу прымушалі думаць, памнажаць пытанні, адкрываць шляхі пазнавання... Я абараняла дысертацыю ў прафесар Мар’і Янён — яна была маёй рэцэнзенткай. Яна прапанавала мне застацца ва ўніверсітэце. Пасля прапанову паўтарала. І на працягу некалькіх гадоў я рвалася. Гуманітарныя навукі з’яўляюцца соллю зямлі — казала прафесар. Я ў той час не хацела пазбавіцца сваёй рускасці, але тады, чвэрць стагоддзя таму я не магла абараніць яе інтэлектуальна. Не было тады яшчэ Кракаўскай школы славістыкі Аляксандра Наумава, ані беластоцкай гісторыі праваслаўя Антона Мірановіча. Я тады яшчэ не сустрэла Ежы Навасельскага, а Лявон Тарасэвіч быў тады яшчэ студэнтам Акадэміі мастацтваў. Тады першае пакаленне праваслаўных прабавала «зачапіцца» за навуку і мастацтва. Я тады шукала, часта інтуітыўна, аргументаў у абароне, каб не страціць сваёй ідэнтычнасці — праваслаўнай, усходняй, русінскай... Абрала журналістыку. Я не думала, што пасля некалькіх гадоў той жа круг такіх самых пытанняў будзе турбаваць Паню Прафесар і маю сціплую асобу, што сустрэнемся пры пытанні аб пачатках хрысціянства ў Польшчы — як пры калодзежы з жывой вадой».

— Я павінна падзякаваць многім маім спадарожнікам пры стварэнні і рэалізацыі гэтай кнігі, якая папраўдзе з’яўляецца калектыўным творам, — на самым пачатку сустрэчы адзначыла Анна Радзюкевіч. — Дырэктару дэпартамента культуры Маршалкоўскай управы Падляшскга ваяводства Анатолю Вапу, духоўным — Уладзіміру Місіюку, Марку Лаўрашуку, Яраславу Юзвіку, Міхалу Чыквіну, самаўрадаўцам — раднаму Беластока Славаміру Назруку, бургамістру Гайнаўкі Ежы Сіраку, войтам гмін: Бельскай — Раісе Раецкай, Гайнаўскай — Люцыне Смактуновіч, Гарадоцкай — Веславу Кулешы, Нараўчанскай — Мікалаю Павільчу. І сваёй найбліжэйшай камандзе — Яўгену Чыквіну, майму рэдакцыйнаму шэфу і сябру, які стварыў «Przegląd Prawosławny» і запрасіў мяне на працу ў штомесячніку і ўвесь час адкрываў мне дзверы ў праваслаўны свет. Без гэтай платформы кніжка не ўзнікала б. Нейкі час Міраслаў Матрэнчык уводзіў мяне ў свет усходняга і заходняга хрысціянства. Дзякую маёй кансультантцы і рэдактарцы Дароце Высоцкай, якая не прапусціць ніякую думку лішне высока лятаючую і квола ўмацаваную ў гістарычных фактах. Дзякую графічны Анне Мішчук-Станкевіч, якая па-майстэрску і чытабельна даказвала думку зместу вобразам, галоўным чынам фатаграфічным... Дзякую сваім найбліжэйшым супрацоўнікам і прафесарам, якіх я была «завочнай студэнткай», хаця яны пра гэта не ведалі: Антону Мірановічу, Ірэне Матус, Яўгену Мірановічу, Алегу Латышонку, Галіне Парфяновіч, Альжбеце Чыквін. Дзякую таксама прыбыўшым на сустрэчу Іаанікію Назарку, Юрыю Усціновічу, Васілю Крупічу... І дабрадзеям, якія фінансава падтрымалі мерапрыемства: Яну Мінюку і фірме «Максбуд» у Бельску, Галене і Міраславу Бужынскім з Бельска, Яну Мікалушку з будаўнічай групы «УНІБЭП», праф. Яну Кахановічу і амбулаторыі «Кендрон», Веры Паўлючук і кіраванай ёю Акруговай малачарні ў Гайнаўцы... Гэты альбом — сапраўды калектыўная праца!

# Украдзеная Радзіма

Віктар САЗОНАЎ

(Рэцэнзія на кнігу Уладзіміра Барадача „Зомби страны советов")

**Сёння ні ў каго няма праблем знайсці для сябе тую тэму, тую літаратуру, якая цябе цікавіць. Век інтэрнэту, як ніяк. Набор клавіятуры, націск аднаго гузіка, і перад табой тое, што ты хочаш.**

Але, нягледзячы на такую лёгкасць, людзі па невядомай вышэйшай волі прапускаюць нейкія канкрэтныя рэчы, хоць даўно і доўга іх шукаюць, або знаходзяць іх не робячы для гэтага аніякіх высілкаў, нават не націснуўшы той гузік на клавіятуры свайго персанальнага камп'ютара. Як бы нехта кіруе гэтым працэсам, кожнаму дорачы толькі для яго падрыхтаванае.

Кніга „Зомби страны советов" трапіла мне на вочы акурат тады, як я закончыў пісаць для альманаха „Асоба і час" свае вайсковыя ўспаміны. Яшчэ свежымі ў памяці былі скокі з самалёта, разуменне місіі савецкага спецназа, вайсковы савецкі дэбілізм, наіўныя мары маладых людзей пра сваю будучыню, перавернутае палітычным выхаваннем разуменне сваёй вайсковай місіі і навязлівыя спадзевы рамантыкаў стаць героямі, якіх будуць помніць і народ, і краіна. Такім рамантыкам, выпускніком Разанскага паветрана-дэсантнага вучылішча быў і мой узводны камандзір, якога я сустрэў у званні лейтэнанта. Мы з ім пасябраваліся, хоць ён быў афіцэрам, кадравым ваенным на ўсё жыццё, а я проста чакаў, калі скончацца мае два гады ганаровага абавязку, які я аддам Радзіме сумленна, з усёй адказнасцю, але праз два гады да пабачэння. А я хачу дахаты.

А мой узводны хацеў у Афганістан. Ён мусіў стаць героем. Так ён быў выхаваны. Яму для гэтага бракавала толькі вайны. Так ён думаў.

Я не ведаю колькі ён пісаў лістоў камандаванню з просьбай яго туды забраць. Я ведаю толькі, што ён туды патрапіў. Мы перапісваліся з ім і тады, як я ўжо скінуў дэсантны цельнік і блакітны берэт. А пасля перапіска абарвалася. Не ведаю чаму. Не хачу думаць горшага. Проста нашы шляхі разышліся.

Крыху пазней, як прайшлі гады і з'явілася туга па маладосці, я хацеў яго знайсці. Але марна. Ніхто з маіх знаёмых не змог сказаць дзе ён. Не адгукнуліся і сацыяльныя сеткі, якія нібыта ведаюць усё на свеце. Аказваецца, не ўсё.

І вось я нечакана спаткаў яго на старонках кнігі „Зомби страны советов". Я яго пазнаў адразу. Хоць гэта быў не ён канкрэтна. Я пазнаў яго вобраз, яго характар, яго стыль мышлення ў галоўным героі кнігі Віктары Ліцвіне. Гэта кніга стала мне як бы праглядам аднаго з варыянтаў, як мог скласціся лёс маладога рамантыка, які вырваўся з савецкай штодзённай шэрай і бесперспектыўнай рэчаіснасці ў войска з наіўнымі марамі праславіцца ў вачах радзімы. Але радзімы ў яго ўжо не было, яе ў яго ўжо даўно скралі, яшчэ да яго нараджэння. Ён проста пра гэта не ведаў.

Галоўны герой кнігі выходзіць з вёскі, дзе ў яго няма аніякіх перспектыў, і з ахвотай і задорам ды са зброяй у руках ідзе абараняць гэты лад, які не дае аніякіх перспектыў такім, як ён.

Віктар Ліцвін, галоўны герой, не мае мінулага. Гэта ў яго таксама ўкралі, як і Радзіму. Гісторыя яго роду і народу ў яго свядомасці пачынаецца недзе з грамадзянскай вайны, якая на пачатку дваццатага стагоддзя залівала крывёй бязкрайнія абшары Савецкага Саюза. У яго няма ні Слуцкага збройнага чыну, ні Грунвальдскай бітвы, ні паўстанцкай вольніцы атрадаў Кастуся Каліноўскага... Няма Беларускай Народнай Рэспублікі, няма нават Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Бо ўсе, і ён таксама, думаюць, што БССР гэта толькі фармальнасць. Ёсць толькі СССР. І толькі на службе ў гэтага бяскамонстра „можна выбіцца ў людзі", як казалі вяскоўцы, што памяталі гісторыю яшчэ да грамадзянскай вайны, але баяліся пра гэта прызнацца. І нават пабаяліся расказаць пра тое гэтаму маладому хлопцу. Таму беларуская вёска, адкуль ён родам, была ўжо не беларускай, а савецкай. Радзіма, сапраўдная Радзіма, была ўжо скрадзена. Замест яе падсоўвалася прыдуманая радзіма.

І чалавек без мінулага, вайсковец, кадравы афіцэр без сапраўднай Радзімы, які




не мае мажлівасці абаперціся на глыбінныя традыцыі і ўстоі, бо пра іх проста нічога не чуў, у імя нейкай абстрактнай будучыні пачынае ствараць сённяшнюю рэчаіснасць так, як сам лічыць патрэбным.

Ён не ведае яшчэ, што без мінулага не пабудуеш будучыні. Нават сваю асабістую будучыню не пабудуеш. Бо яна будзе гэтакай жа фальшывай, як тыя ўяўленні, якія ўклалі ў галаву маладому афіцэру ілжывыя палітработнікі.

Яго разуменне гэтага ствавальнага працэсу вельмі супярэчлівае. Усё, што ў яго ёсць, гэта палітычная падрыхтоўка, у якую ён унутрана не верыць сам, і вайсковая падрыхтоўка, адзінае, на што ён можа разлічваць у жыцці.

Ён паўсюдна бачыць дэбілізм, несправядлівасць і подласць, але служыць гэтай сістэме сумленна і аддана. І не толькі таму, што больш нічога не ведае. Галоўнае таму, што ён нарадзіўся з адной вельмі рэдкай якасцю, якая і вызначала яго лёсаносныя рашэнні на працягу ўсяго жыцця.

Гэтая якасць — абвостранае пачуццё абавязку.

Яно не дазваляе не датрымаць слова. Яно не дазваляе кінуць сваіх. Яно не дазваляе прадаць, здрадзіць, схавацца ад адказнасці за плечы іншых. Гэтую якасць нельга выхаваць, натрэніраваць, прымусіць ёй развівацца. З гэтай якасцю можна толькі нарадзіцца. Яна падарунак звыш. І або яна ёсць ад пачатку, або яе не будзе ніколі.

Віктару Ліцвіну яна дасталася ад нараджэння. Усё астатняе было фальшывым. Усё чаму яго вучылі. І ўся гэтая фальшывая навука сутыкнулася з гэтым пачуццём ад нараджэння — вострым пачуццём абавязку. Грымучая сумесь. Яго лёс быў прадвызначаны.

Звычайна ў рэцэнзіі не надаецца такая вострая ўвага аднаму персанажу, нават калі ён і з'яўляецца галоўны герой. Але гэтая кніга асаблівая. Тут, не будучы знаёмым з аўтарам асабіста, вельмі цяжка вызначыць, дзе канчаецца аўтар і дзе пачынаецца галоўны герой. Дзе канчаюцца рэальныя ўспаміны аўтара і дзе пачынаецца мастацкая афарбоўка, дзе канчаецца дакументалістыка і нават мемуарнасць і дзе пачынаюцца літаратурныя дадаткі.

Кніга неафіцыйна складаецца з двух абсалютна розных частак, якія звязвае між сабой толькі постаць галоўнага героя і яго няпросты лёс. Першая частка кнігі пачынаецца інтэнсіўна і імкліва. Багацце падзей і вобразнасць успрыняцця рэчаіснасці настолькі вострыя і маляўнічыя, што здаецца нібыта ты сам удзельнік падзей, якія апісваюцца. Што ты знаходзішся ў сярэдзіне бурлівых дзеяў, або як мінімум глядзіш фільм з навейшымі тэхналогіямі, які не дае табе мажлівасці хутка адрозніць рэальнае ад віртуальнага. Настолькі ўсё сканцэнтравана ў падзеях і часе.

Тут яскрава бачны ўвесь літаратурны талент і аўтара, і рэдактара, і ўсіх, хто спрычыніўся да выпуску гэтага твора. Але галоўнае тое, што ні на хвіліну чытач не сумняваецца ў рэальнасці і мажлівасці таго, што прачытвае.

Першая частка кнігі пакідае ўражанне, што аўтар ведае пра што піша.

Афганістан, дзённік афіцэра, савецкія і афганскія салдаты, мёртвыя і жывыя, тыя, хто зусім паехаў мазгамі ад убачанага і перажытага і тыя, у каго ад гэтага пачалі адчыняцца вочы. Новае разуменне каштоўнасцей. І зноў вузкае, зноў толькі сваё, зноў кланавае. Хоць ужо зусім не тое, што было нядаўна. Зусім нядаўна гэта былі агульнасавецкія штампы. А зараз узнік новы сяброўскі клан тых, хто ваяваў у Афганістане. У іх ужо не такі погляд на сусвет, чым у астатніх. Яны ўжо разумеюць кошт сяброўству і вернасці, і ненавідзяць агульнасавецкі фальш, кар'ерызм на крыві іншых, кар'ерызм увогуле. Яны, у адрозненні ад савецкай прапагандысцкай мадэлі, якая вучыла люта ненавідзець усіх ворагаў савецкай ідэалогіі, ужо навучыліся паважаць і шанаваць не толькі сяброў, але і сваіх ворагаў.

Аднойчы я з сябрамі зайшоў у адну кнайпу. Недалёка ад нас сядзела сумная і адначасна ўрачыстая кампанія. Прыглядзеўшыся, я зразумеў, што гэта былыя афіцэры афганцы. Яны азначалі нейкі свой дзень. Выпівалі. Гаварылі тосты. Калі гэта за нябожчыкаў, за сяброў, якіх згубілі ў бітве, то ўставалі. Усталі і яшчэ на адзін тост. Моўчкі і з павагай выпілі. Памянулі. Гэта быў тост за іх непрыяцеля, афганскага ваяра, які біўся супраць савецкіх войск — Ахмада Шаха Масуда. Яны ўшанавалі яго памяць. Яны цанілі мужнасць і адданасць справе.

А аднойчы я праглядаў у інтэрнэце здымкі Афганістана да вайны. (Дарэчы, раю паглядзець усім). Зайшоў мой знаёмы „афганец". Глядзець адмовіўся. Сказаў, што ніхто з тых, хто там ваяваў, не захоча паглядзець здымкі даваеннага Афганістана.

І яшчэ адзін эпізод. З адным нашым прыяцелем мы пазнаёміліся ў дзень памяці воінаў-інтэрнацыяналістаў, як яго называюць афіцыйна, а неафіцыйна дзень памяці загінулых у Афганскай вайне. Па яго прапанове мы накіраваліся да помніка воінам-афганцам, каб пакласці кветкі. Некалькі букетаў там ужо ляжала. Але акрамя нас ля помніка нікога не было. Яму было вельмі сумна і балюча.

Галоўны герой кнігі „Зомби страны советов" на сваім лёсе мусіў пераканацца, што краіна, якой ён служыў, не асабліва рупілася ні пра жывых, ні пра мёртвых. Ну а помнікі яна любіла ставіць. Каб замбаваць наступнае пакаленне. Але савецкія кіраўнікі не прыходзілі да іх акрамя як для прапаганды. Навошта. Іх дзеці не служылі ў Афгане, за выключэннем добраахвотнікаў-рамантыкаў. Іх дзеці, як і ўказвае аўтар кнігі, служылі ў падмаскоўнай вайсковай акрузе, бліжэй да крамлёўскіх зорак.

Віктар Ліцвін можа і зразумеў гэта позна. Але нават зразумеўшы гэта, ён не можа яшчэ асэнсаваць усяго жаху свайго становішча, у якім толькі можа апынуцца кадравы афіцэр, якому па сумленні сваім трэба служыць радзіме, якой няма. Савецкі Саюз развальваецца, а другой радзімы ён не ведае. Тое, што яго Радзіма Беларусь, і толькі Беларусь, ён яшчэ не ўсведамляе да канца. Тыя, хто гэта ўсведамляюць, радуюцца развалу СССР, бо іх Радзіма Беларусь нарэшце вырвалася з палону і стала вольнай. Віктар Ліцвін у гэты час у разгубленасці. Ён не ведае што рабіць. І гэта была трагедыя не толькі яго. Гэта трагедыя Беларусі. Бо яна, Беларусь, была ўкрадзеная ў цэлага пакалення. І людзі, якія нарадзіліся з абвостраным пачуццём абавязку, не ведалі, дзе могуць рэалізаваць свой дар. І ішлі служыць невядома куды і каму...

Другая частка кнігі, якую можна было б назваць пасляафганскай, лепш усё ж назваць пасляпасавецкай. Бо ні для галоўнага героя рамана, ні для яго аўтара, ні для многіх падобных людзей Афганістан не закончыцца ніколі. У іх няма пасляафганскага перыяду. У іх усё жыццё афганскі перыяд.

А вось пасляпасавецкі перыяд ёсць. Ён відавочны. І яны зразумелі, што такое подласць савецкай сістэмы. І тут пачынаецца новая, яшчэ больш жахлівая трагедыя чалавечых лёсаў.

Віктар Ліцвін адчувае гэтую персанальную трагедыю. Адчувае і персанальныя трагедыі сваіх выкінутых з нармальных жыццёвых працэсаў сяброў. Вось толькі ён не адчувае яшчэ галоўнага жаху, што яго асабістая трагедыя праходзіць паралельна з другой, жудаснай у гістарычных маштабах трагедыяй. І гэта трагедыя ўсёй беларускай нацыі. Найвялікшая трагедыя нацыі, сыны якой служаць не ёй.

працяг ☞ 11

# Засталіся адно ўспаміны (27)

Вёска Сакі была апошняй на маршруце па Гайнаўшчыне. Затым пераязджалі мы ў Малінікі Бельскага павета. Вёска вялікая, з мураванай двухпавярховай школай. Кіраўніком першапачаткова быў Юзаф Монсёль. Пераехаў сюды з жонкаю Марысяй з Чаромхі-Станцыі. Памятаю, што яны мяне вучылі да пачатку пяцідзясятых гадоў. Пасля абавязкі кіраўніка прыняў Сцяпан Бурыла. Ён адначасова ўзначальваў мясцовую партарганізацыю. З ім настаўнічала ягоная жонка Раіса. Запамятаў яшчэ маладзенькую настаўніцу Валю Жылюк з Дубяжына, ды Бурылу з Градалёў. Хоць Бурыла быў «службістам», не было праблемы з арганізаваннем ранішнікаў. Настаўнікі станоўча ставіліся да кіношнікаў. Паколькі зала па правілах супрацьпажарнага парадку прадбачвала, як прыпамінаю, пяцьдзясят пяць гледачоў, дык і на ранішніках, і на вячэрніх сеансах мелі норму, а нават з невялічкім лішкам. Прыпамінаецца мне адно здарэнне. Пасля абеду арганізавалі мы ў школе дадатковы сеанс для дарослых. Была нядзеля або прыхадское свята. У зале амаль камплект гледачоў. Калі я стаяў з касай пры акне на калідоры, да мяне наблізіўся высокі, стройны мужык у цывільным адзенні.

— Хацеў бы я гаварыць з кіраўніком кіно, — заявіў прышэлец.

— А ў чым справа? — пытаюся.

— Я з павятовай камендатуры пажарнай стражы, — заявіў і затым дабавіў: — Колькі гледачоў маеце на сеансе?

— Калі ласка, пойдзем у машыну і праверым колькасць прададзеных білетаў...

— Няма такой патрэбы, — заявіў пажарнік, затым рашучым тонам загадаў: — Перадайце касу шафёру ды ідзіце са мною...

— А куды?

— Пабачыце...

Перадаў я касу з білетамі шафёру Уладэку Скепку, затым падаўся з пажарнікам па вуліцы ў напрамку Бельска. Прайшоўшы метраў дзвесце, мой праваднік павярнуў у левы бок, дзе знаходзілася вясковая крама. Побач, у агародчыку, угледзеў я кампанію мужыкоў, якая на раскладзеным пледзе... балявала. Пажарнік рашучым тонам загадаў:

— Наліце кіраўніку...

Казалі прысесці. У вясёлай кампаніі мы гасцявалі некалькі гадзін. А на адвячорку рыхтавалі вечаровыя сеансы для дарослых. Гэта быў пачатак знаёмства са старшым сяржантам Павятовай камендатуры пажарнікаў у Бельску-Падляшскім Уладзімірам Федаровічам і мясцовымі пажарнікамі з Маліннік. Пры нагодзе пазнаёміўся я з прадаўцом вясковай крамы Яшам Васілюком. У яго кватэры змяшчалася крама, у якой прадавалі Яша з пасівелай матуляй. Але не была гэта першая і апошняя сустрэча з Валодзем Федаровічам. За сем гадоў працы ў ВПК мы сталі неразлучнымі сябрамі. Валодзя ездзіў на службовым матацыкле „Юнак”. Часта наведваў нашу брыгаду „ў тэрэне”. Затым і я стаў частым госцем начальніка пажарнікаў Адоліка Часноўскага, нотабена, чарамшаніна і яго намесніка Валянціна Сіманенкі. Але аб гэтым у пазнейшых допісах.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**

## На рэабілітацыйным аддзяленні (10)

У „Ракітніку” дзень пачынаўся ў 8:00 са снедання. Затым ад 8:30 да абеду адбываліся заняткі ў зале практыкаванняў і лячэбныя працэдуры ў фізіятэрапеўтычных кабінетах. У кожным кабінеце адначасова можна было абслугоўваць двух пацыентаў. Калі мне лазерам абпраменьвалі ступню, а было гэта на трэці дзень прабывання ў чарговасці змены, майму сябруку кварцавай лямпаю абпраменьвалі пазваночнік. Завязалі мы між сабою гаворку.

— Адкуль будзеш? — пытаю.

— З Беластока...

— У Белавежы ўпершыню? Як падабаецца?

— Закутак, глухмень... У мінулым годзе быў я ў Устцы. Там жытуха. Піўцо, забава, ёсць з кім пагаварыць, — канстатаваў Ёзік. — У гэтым годзе было ў мяне права выбару — Устка або Белавежа. І выбраў. Зараз шкадую, — і тут жа прыбаўляе: — А адна з нашых нічога сабе „бабэчка”. Гаворать, што паненка. І добрая пасада ў яе. А на якой „брычцы” прыкацілася...

— З якога года будзеш?

— З сорак сёмага...

Такім не рэабілітацыя, адно гулянкі ў галаве, любоўныя прыгоды...

Харчаванне ў „Ракітніку” смачнае. На снеданне, напрыклад, далі хлебабулачныя вырабы рознага віду: кайзерка, бальтаноўскі і аржаны хлеб, рыс з малаком, шэсць скрылікаў каўбаскі лепшага сорту, два скрылікі перцу, два кусочкі тварагу, варэнне і гарбата. На абед: боршч чырвоны, бульба з варанай курацінай, салат з маркоўкі, люкраваная булачка з варэннем, кампот з фруктаў.

У 16:30 сустрэча з псіхатэрапеўтам — заняткі па разумовай спраўнасці і гімнастычная трэніроўка.

На вячэру: масла, луста паштэту, цэлы памідор і варанае яйка, гарбата.

Пасля вячэры прагулка па Белавежы. У „Ракітніку” няма часу на нуду.

(працяг будзе)

**Уладзімір СІДАРУК**



# http://svaje.by

Сёлетняй восенню ў інтэрнэце з'явіўся сайт, які стаў своеасаблівым крокам да ўзмацнення пазіцый беларускай мовы ў насельніцтва, якое пражывае ў Беларусі. Паколькі беларускія ўлады па-ранейшаму не надта прыхільна ставяцца да беларускай мовы, нягледзячы на яе дзяржаўны статус, актыўная частка беларускага грамадства ўсё больш бярэ ініцыятыву ў свае рукі, каб хоць трохі пашырыць прастору беларушчыны. Адным з несумненна карысных дзеянняў стала стварэнне ў інтэрнэце каталога беларускага бізнесу, які месціцца па адрасе http://svaje.by.

Першы позірк на дадзены сайт дае ўяўленне аб дбайна распрацаванай вэб-старонцы. Уверсе цэлага выяўлення размешчаны шэсць фотаздымкаў, якія з'яўляюцца выйсцямі на некаторыя рубрыкі сайта. Гэтыя рубрыкі адначасова з'яўляюцца катэгорыямі тых паслуг, якія прапануюць неабыякавыя да беларушчыны прадпрымальнікі. „Рэчы і сувеніры ў беларускім стылі”, „Адзенне ў нацыянальным стылі”, „Кнігарні”, „Кавярні, рэстарацыі, фаст-фуд”, „Адукацыя”, „Дом і сад” — такія раздзелы існуюць на сайце, дзе сабраны звесткі, будзем спадзявацца, што далёка не ўсе, пра беларускі бізнес.

Згодна інфармацыі, пададзенай у рубрыцы „Пра нас”, выйсце на якую знаходзіцца ўнізе цэлага выяўлення, на сайце Svaje.by — сабрана інфармацыя пра бізнесы, якія абслугоўваюць кліентаў па-беларуску, спрыяльна ставяцца да беларускай мовы, выкарыстоўваюць беларускую мову ў рэкламе і вонкавым афармленні, падтрымліваюць беларускаарыентаваныя культурныя праекты. „На нашым сайце вы можаце ацаніць і пакінуць водгук на любы бізнес, нават не ўключаны ў наш каталог, і беларуская мова — асобны крытэрый ацэнкі, але не адзіны”, — запэўніваюць яго стваральнікі, пералік якіх знаходзіцца ўнізе старонкі. Пры гэтым яны адзначаюць, што Svaje.by — прыватны, непалітычны і непартыйны рэсурс. „Наша мэта — выключна прамоцыя беларускіх бізнесаў і стварэнне камфортных умоў жыцця для беларускамоўных спажыўцоў. Зроблена ў Беларусі без замежных грантаў”, — сцвярджаюць рупліўцы.

Нягледзячы, што сайт даволі новы, ім ужо зацікавілася беларуская прэса. Некаторыя адпаведныя артыкулы можна знайсці на той жа старонцы. З аднаго з іх даведваемся, што галоўным заснавальнікам інтэрнэт-каталога з'яўляецца праграміст Павел Колас. Праўда, згодна яго інтэрв'ю сайту „ЕўраБеларусь”, нават ён не з'яўляецца вынаходнікам у гэтым рэчышчы, бо дагэтуль нешта падобнае рабілі на сайце курсаў „Мова Нанова”, хоць апошнім часам інфармацыя там не абнаўляецца. „Таксама пры падтрымцы Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны працуе сайт Nabyvaj.by, дзе можна пазнаёміцца з некаторымі практыкамі ўжывання беларускай мовы ў спажывецкіх таварах, а таксама пакінуць заяўку на атрыманне прафесійнага перакладу матэрыялаў бізнесу на беларускую мову. Далей, мяркуе суразмоўца, у Svaje.by яшчэ будуць з'яўляцца канкурэнты”, — піша „ЕўраБеларусь”.

Паводле размовы Коласа з карэспандэнтам газеты „Наша ніва”, каманда стваральнікаў каталога мае патэнцыял для развіцця і хуткага рэагавання на новыя выклікі. „Калі мы захочам стварыць раздзел прыватных абвестак ці даць магчымасць бізнесам прадаваць праз наш сайт, гэта будзе справа некалькіх дзён, а не пытанне змены платформы. То-бок гэта не сайт-візітоўка, а распрацоўваўся на гады”, — кажа Павел Колас.

**Аляксандр ЯКІМЮК**

## Дата з Календара

Пакінуў нашчадкам верш і жырандолю



## 205 гадоў з дня нараджэння Паўлюка Багрыма

Адзін з першых беларускамоўных паэтаў Паўлюк Багрым нарадзіўся 14 лістапада 1812 г. у мясцовасці Крашын Навагрудскага павета (зараз гэта вёска афіцыйна, але памылкова, называецца Крошын з націскам на першы склад, адміністрацыйна прыналежыць да Баранавіцкага раёна). Паходзіў Паўлюк Багрым з сям'і рамесніка. Пачатковую адукацыю атрымаў у Крашынскай парафіяльнай школе, фундатарам якой быў ксёндз Магнушэўскі. З дзяцінства хлопец захапляўся мастацкай літаратурай, асабліва паэзіяй. Рана пазнаёміўся з творамі Гамера і Эзопа, якія ўразілі яго хараством вершаскладання і гуманізмам. Пад уплывам фальклору і паэзіі Юльяна Нямцэвіча і Адама Нарушэвіча, яе свабодалюбства і антыфеадальнай скіраванасці сам стаў складаць вершы. У іх гучалі замілаванасць да роднага краю, яго прыроды, людзей, боль за іх нялёгкае жыццё пры паншчыне, імкненне да свабоды. Сялянскія хвалы ванні, што адбыліся ў роднай вёсцы ў 1828 годзе, не пакінулі Багрыма ў баку, і ён адгукнуўся на гэтыя падзеі сваімі вершаванымі радкамі, чытаў аднавяскоўцам забароненыя вершы іншых аўтараў. Пры вобыску расейскія жандары знайшлі ў Багрыма спіс ананімнага вершаванага твора „Гутарка пана з хлопам”. За распаўсюд антыпрыгонніцкіх вершаў ён быў здадзены ў рэкруты і прайшоў доўгі і нялёгкі шлях службы ў расейскім царскім войску. Вярнуўшыся з войска ўжо ў сталым веку, працаваў кавалём у роднай вёсцы. Багрым, як і яго бацька, валодаў кавальскім рамесніцтвам і дасягнуў у ім мастацкіх вяршынь.. Пра яго майстэрства сведчыць вялікая прыгожая выкаваная ім жырандоль — адмысловая люстра, якая да гэтага часу знаходзіцца ў Крашынскім касцёле. Над яе стварэннем ён працаваў некалькі гадоў. З яго творчай спадчыны да нас дайшоў толькі адзін верш „Зайграй, зайграй, хлопча малы...”, напісаны ім у юнацкім узросце і надрукаваны ва ўспамінах навагрудскага адваката Ігната Яцкоўскага „Аповесць з майго часу” (Лондан, 1854 год). Верш стаў хрэстаматыйным для беларускай літаратуры. Гэты верш паэт напісаў, верагодна, калі быў падлеткам. На думку такіх аўтарытэтаў як Рамуальд Зямкевіч і Максім Гарэцкі Багрыму належала і аўтарства ананімнага верша антыпрыгоннага духу „Гутарка Данілы са Сьцяпанам”. А даследчык беларускай гісторыі Ігар Запрудскі вылучае версію, што верш „Зайграй, зайграй, хлопча малы...” быў напісаны Юльянам Лясковіцкім. Такім чынам, магчыма што Паўлюк Багрым — літаратурная містыфікацыя. Краязнавец і рыма-каталіцкі святар Караль Жураўскі, які напярэдадні Другой сусветнай вайны працаваў пробашчам у мястэчку Крашын, збіраў успаміны і дакументы пра паэта, зрабіў фотакопіі адпаведных дакументаў. У 1988 годзе Жураўскі перадаў у Інстытут АН БССР свае матэрыялы пра Паўлюка Багрыма і свой рукапіс пра гісторыю сям'і паэта. Як бы там не было, імя Багрыма трывала ўвайшло ў гісторыю беларускай літаратуры. Верш Багрыма — сапраўдны шэдэўр беларускай лірыкі XIX стагоддзя, які кранае глыбінёй і непасрэднасцю пачуццяў, яркім народна-песенным каларытам, сілай пратэсту супраць прыгону.

Памёр Паўлюк Багрым каля 1891 года (дакладная дата смерці невядомая) у родным мястэчку. Пахаваны на мясцовых могілках, на магіле ўсталяваны адметны арыгінальны помнік. 14 верасня 1985 года ў Крашыне адкрыты музей народнага мастацтва і рамёстваў імя Паўлюка Багрыма.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

9 ☞ працяг

# Украдзеная Радзіма

Менавіта гэта вызначае далейшы лёс галоўнага героя. Ён адчувае боль сваіх сяброў і дапамагае ім. Болі нацыі ён яшчэ не адчувае. Ён даказвае сваё права называцца мужчынам і баявым афіцэрам у кожнай жыццёвай сітуацыі, хоць даўно ўжо не ў войску. Ён выбівае чужыя пазыкі ў чужых бізнесоўцаў для чужых гаспадароў, спрабуе працаваць і на сябе і нават уплывае на палітычную сітуацыю ў трэціх краінах. І разлічвае, як і раней, на сябе і свой новы клан, праверанных у Афганістане сяброў.

А ў гэты час у Беларусі адбываюцца свае гістарычныя лёсавыя падзеі. Беларусь атрымала незалежнасць. Ішла бітва за ўладу. І паралельна з гэтай бітвай ішла бітва за знішчэнне беларускай незалежнасці.

Беларусь стаіць на раздарожжы. Вырашаецца яе лёс. Ідуць развагі пра тое, што пераможа, чужая дыктатура ці свая дэмакратыя. Ёсць і трэці варыянт. Менавіта гэты, трэці варыянт мажліва быў бы больш даспадобы галоўнаму герою кнігі і такім як ён асобам. Гэта дыктатура, але не чужая, а свая. Нацыянальная дыктатура. Бо ў гэты час зараджаецца кволае абгрунтаванне таго, што беларускі народ гістарычна асуджаны прайсці шлях дыктатуры, як і многія іншыя народы, што прайшлі яго раней. І выбар у яго на бліжэйшыя гады да прымітыўнага прасты. Будзе гэта нацыянальная, ці антынацыянальная дыктатура. І што нацыянальная дыктатура выканае сваю місію і плаўна перарасце ў дэмакратыю. Бо яна свая, і будзе эвалюцыянаваць паводле развіцця і патрэб нацыі. Гэтыя галасы вельмі слабыя і топяцца ў бітвах двух іншых плыняў. Таму Віктар Ліцвін гэтых галасоў і не пачуў. Таму ў кнізе аўтар пра іх нічога не ўзгадвае, хоць узгадвае важнейшыя гістарычныя падзеі таго часу і ключавых гульбакоў на палітычным паслясавецкім, і канкрэтна беларускім полі. Таму галоўны герой займаецца сваімі справамі і справамі сваіх сяброў. Ён звычайны беларус, у якога яшчэ да нараджэння ўкралі Радзіму.

Галоўны герой вяртаецца ў беларускае жыццё тады, калі ў палітычнае жыццё краіны прыйшлі людзі яго клана, або блізкія да яго клана. Ідзе надалей барацьба за ўладу. Віктар Ліцвін не там, дзе пратэстуюць шэраговыя байцы беларускага адраджэння. Гэта не яго ўзровень, як ён мяркуе. Ён сярод уплывовых і вядомых палітыкаў. Ён атрымлівае прапановы з абодвух бакоў. Ён нават ужо ведае, які бок пераможа. Але спрацоўвае ўсё тое ж, падоранае яму звыш ад нараджэння вострае пачуццё абавязку. Ён ужо даў слова іншым. Ён не можа яго перажэргнуць. Інакш ён будзе не ён. Ён бачыць жыццё і перспектывы не толькі гэтых, але і іншых кланаў. А вось перспектывы нацыі ў цэлым ён хоць унутрана ўжо адчувае, але яшчэ не да канца.

Цяпер у яго новыя сябры, і ён ім не можа здрадзіць. Ён так рабіў і раней. Хоць па другі бок таксама застаюцца тыя, хто яму, як і аўтару кнігі, персанальна не выклікаюць негатыўных эмоцый.

Хіба таму другая частка кнігі адрозніваецца ад першай тым, што тут уважлівы чытач заўважыць некалькі літаратурных вольнасцей. Такіх як наўмыснае скажэнне прозвішча вядомага палітыка. Або тое, што аўтар




не называе ўвогуле прозвішчаў некаторых дзеячаў. Хавае іх ад чытача, а можа і не толькі ад чытача.

Некаторыя моманты застаюцца загадкай, як і тое, для каго ў першую чаргу напісаная гэта кніга. Хто яе галоўны адрасат.

Зрэшты, гэта не ёсць так важна. Шмат кніг так пісалася. Многія літаратуразнаўцы, схіляюцца, прыкладам, што знакамітая „Майстар і Маргарыта” ўвогуле была напісана ў першую чаргу для аднаго толькі чытача — для Сталіна. Але гэта не перашкодзіла ёй стаць адным з самых чытаных твораў. Думаю, што і ў „Зомби страны советов” недахопаў у чытачах не будзе.

Кніга сапраўды чытаецца лёгка, напоўненая разумовымі высновамі, такімі як „вайну прайграюць усе”, і маляўнічымі вобразамі з жыцця, такімі як той салдат, што піша вершы. Ім, як антыподы супрацьстаяць генералы, якія лічаць сябе Жукавымі часоў апошняй вайны і таму ваююць метадамі апошняй вайны. Ваююць салдатамі, якія пішуць вершы. Аўтар апісвае сістэму, якая прызнае толькі сваіх і паўсюдна расстаўляе асабістаў.

Другая частка кнігі насычаная вядомымі ўсім прозвішчамі людзей, многія з якіх і сёння вызначаюць лёс Беларусі або ўплываюць на яго вызначэнне. Мы бачым канфлікт плыняў і ідэалогій, які яшчэ не скончыўся, а наадварот набывае ўсё больш новыя формы. І невядома чым ён скончыцца.

Па сутнасці, гэта своеасаблівая міні-энцыклапедыя часу вачамі аднаго непасрэднага ўдзельніка падзей.

Гэты непасрэдны ўдзельнік робіць свае высновы і пра прычыны паразы ГКЧП, і пра рэформы Гайдара, і пра тое, чаму так хутка развалілася савецкая мараль і пра механізм страху, які кіруе людзьмі, дае сваю адзнаку дзеянням мінулых і сённяшніх лідараў, і нават прызнаецца, што ў многіх сітуацыях яму цяжка вызначыць хто праў.

І гэта не дзіўна. Галоўны герой глядзіць на свет выключна са свайго жыццёвага досведу. А каб упэўнена кіравацца трывалымі высновамі і пераканаННЯмі, досведу аднаго чалавечага жыцця мала. Нават калі гэтае жыццё доўгае і насычанае падзеямі. Патрэбен досвед нацыі. А каб яго спазнаць, трэба вярнуць сабе ўкрадзеную Радзіму.

Зрэшты, галоўнага героя ўсё яго жыццё вяло да гэтага.

Кніга заканчваецца нечакана і нават не зусім лагічна. Мажліва таму, што прэтэндуе на вызначэнне і ацэнку пэўнага гістарычнага працэсу, які яшчэ не скончыўся і невядома як скончыцца. Таму вельмі цяжка зазірнуць у будучыню вачамі аўтара. Гэта цяжка і самаму аўтару. Праўда, можна паспрабаваць глянуць на ўсё, і на мінулае і на будучыню вачамі нацыі. У гэтым выпадку многія нявызначаныя высновы становяцца адразу зразумелымі і яснымі, як жнівеньскае неба. Але галоўны герой толькі-толькі адшукаў сваю ўкрадзеную радзіму ў сваім жа сэрцы. Яму патрэбны час.

І яшчэ, калі гаварыць не пра асноўных адрасатаў кнігі, якія застаюцца загадкай, а пра масавага беларускага чытача, то кніга абавязкова патрабуе перакладу на беларускую мову. Па-першае твор сапраўды варты таго, каб яго перакласці. А па-другое, сённяшняя Беларусь у гэтым сэнсе неверагодна цікавая і ўнікальная краіна. Большасць яе жыхароў размаўляюць на рускай мове, але чытаюць то выключна па-беларуску.

Яшчэ адзін парадокс украдзенай Радзімы.

❖ **Віктар САЗОНАЎ**

# Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. незамужняя маладзіца = 9 _ 10 _ 11 _ 25 _ 26 _ 27 _;
2. дзікі кабан = 15 _ 16 _ 17 _ 18 _;
3. пасудзіна, з якой у час набажэнства курыцца ладан = 12 _ 8 _ 28 _ 29 _ 30 _ 13 _ 14 _;
4. вяровачка для перавязвання пярэдніх ног хатняй жывёле = 7 _ 21 _ 5 _ 6 _;
5. пасудзіна з таўкачом = 22 _ 23 _ 24 _ 20 _ 19 _;
6. твор Джэймса Джойса і Яна Максімюка = 1 _ 2 _ 3 _ 4 _.

**(ш)**

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | | | | | | |
| | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 |
| | | | | | 12 | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 |
| | | | | 18 | 19 | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 |
| | | | | | 25 | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 44 нумара**

Лесвіца, пята, Супрасль, Хіва, хол, саха, дагляд, слых, сяўба, тэніс.

Рашэнне: **Па Усіх Святых холад для ўсіх**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# 19.11 — 25.11

**(22.03. — 20.04.)** Трохі абавязкаў, трохі прыемнасці. Многа энергіі, але магчымыя канфлікты. Некаторыя справы спозняцца, але пойдзе гэта к дабру. 19-23.11. можа цябе заспець абарот спраў і будзеш прымушаны хутка вырашаць. Пратэстуецца таксама твая адвага. Інвестуючы, старайся аб'ектыўна ацэньваць свае магчымасці. На тваю пячонку памогуць зверабой і мята.

**(21.04. — 21.05.)** Добры час для памножвання маёмасці, старанняў за крэдыты. 19-23.11. выкажашся добрым носам у інтарэсах, можаш шмат што здабыць. Хаця 18-22.11.магчымыя непаразуменні з сябрамі. Дбай аб свой страўнік, апранайся цёпла, але не ў цеснае адзенне.

**(22.05. — 22.06.)** Засяродзь свае сілы на мэце. Будуць нагоды для падарожжаў, пашырэння гарызонтаў. Можаш кінуць старыя, шкодныя звычкі. Пазбягай прабывання з маруднымі і наракаючымі знаёмымі. Калі шукаеш працу, падумай, ці не варта задаволіцца чымсьці сціплейшым, што дало б усё ж пастаянныя прыбыткі і магчымасць развою. Пі ваду, прынамсі паўтара літра ў суткі.

**(23.06. — 23.07.)** Спрыяюць табе зоркі і людзі, але будзь асцярожны ў кантактах — можаш адным словам нарабіць сабе моцных ворагаў, што шмат у чым табе могуць зашкодзіць. 18-22.11. могуць цябе знерваваць плёткі пра тваю асобу ці тваіх блізкіх, якія распускаць будуць твае знаёмыя; магчымыя спрэчкі з сябрамі. 18-19.11. можаш яшчэ раз распытацца аб працу, а знойдзеш яе 24-26.11., не бойся перакваліфікоўвацца.

**(24.07. — 23.08.)** Шмат энергіі, але не марнуй яе на драбніцу. Засяродзься на самым важным. 19-22.11. не ўваходзь паміж перасвараныя бакі. Не сумнявайся ў сваёй атракцыйнасці, што там прышчык на носе! (асабліва 19-22.11.). Некаторыя рэчы і знаёмствы рассыплюцца; калі не ўдасца іх паладзіць, не пераймайся. Калі намерваешся змяніць працу, можа гэта ўдасца 24-26.11. Магчымы прыліў грошай, але будуць і большыя выдаткі.

**(24.08. — 23.09.)** Ясна намячай мэты, папраўляй памылкі і ідзі проста да перамогі. Шукаючы працу, не адкідвай прапаноў, якія атрымаеш 19-21.11., каб пасля не шкадаваць. Будзеш мець геніяльныя задумы, як зарабіць і міла выдаць грошы. Але калі ты з II дэкады, можаш стаць ахвярай зладзеяў і падманшчыкаў. 24-26.11. шчопаць шчасця паможа табе ў рэалізацыі мар. Будуць новы карысныя знаёмствы.

**(24.09. — 23.10.)** Мноства нагод — невядома за якую ўзяцца! Наробішся за траіх асабліва 19-22.11. Знакаміта з усім справішся, толькі не нервуйся. Калі ты шэф, не змяніся ў тырана! Шалям-бізнесоўцам зоркі падкажуць, што рабіць, каб было яшчэ лепш. Але ў здароўі 19-22.11. могуць быць крытычныя дні, можа падвесці цябе таксама дыпламатыя.

**(24.10. — 22.11.)** Справішся з усімі заданнямі, толькі выкажыся большай адвагай і ініцыятывай (будзе горшая форма). Акалічнасці складуцца карысна. 19-23.11. завострыцца твой апетыт на жарсці. Самотныя Скарпіёны вельмі атракцыйныя, толькі будзьце смялейшымі. 18-22.11. апынешся ў новым месцы і ў нетыповай для сябе ролі; не пераймайся, што скажуць людзі — лепш тады з усім справішся. За новай працай з поспехам можаш разглянуцца 19-23.11.

**(23.11. — 22.12.)** 19-21.11. рассакрэціцца таямніца з мінулага. Не адступайся перад выклікамі, дасягнеш тое, што табе трэба. На працы падрыхтуй план дзеянняў і памятай, што не мусіш дапамагаць кожнаму, хто цябе просіць. Падыходзь да важных экзаменаў, апрацуй стратэгію дзеянняў, абараняй сваё. Будзеш мець задумы як здабыць грошы, кашалёк не будзе пуставаць. Да 22.11. будуць цябе атакаваць вірусы.

**(23.12. — 20.01.)** Многа спрыяльных людзей. Справішся з канкурэнцыяй. Можаш заваяваць чыёсьці сэрца, але не будзь нахабным. Бач у іншых тое, што добрае. 18.11. геніяльныя задумы на працы. Але 18-22.11. можаш стаць ахвярай інтрыг на рабоце, затое зможаш адабраць даўгі.

**(21.01. — 19.02.)** 19-22.11. ідэальны час на кантакты з замежжам, пашырэнне кола знаёмых. Хаця новыя вырашэнні з 19.11. не мусяць быць найлепшымі. Ад 22.11. перастанеш бачыць толькі заганы сярод радні і знаёмых; час паразмаўляць. Хопіць адвагі, працавітасці, але задбай аб свой піяр, прыдасца папулярнасць. Не выкідвай рэчаў з шафы, яшчэ прыдадуцца.

**(20.02. — 21.03.)** Багата, але лепш тужэй зашпілі кашалёк. У пары можа штосьці ўпасці для вас з неба. Можаш таксама папрацаваць у шырэйшай грамадзе. Спачатку падумай, як зарабіць грошы, а пасля плануй, на што іх выдаць. Вірусы не такія страшныя, але лепш штодзень ранічай папрактыкуйся. І наведай дантыста!

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

# Вечнае бежанства

**Апакрыфічная Кніга мудрасці Саламонавай: „Наша жыццё кароткае і напоўненае турботамі, а калі прыходзіць яму канец, то ад яго нельга збегчы. Не ведаем нікога, хто вярнуўся б з краіны мёртвых. Мы нараджаемся выпадкова і калі канчаецца жыццё, то становіцца так, быццам мы і зусім не нарадзіліся. Наш подых гэта не больш чым клубочак дыму, наша думка не больш чым іскрынка ад біцця сэрца. Калі іскрынка гасне, наша цела становіцца жменькай праху, а подых часцінкай пустога паветра. З часам ніхто не будзе помніць нашых здзяйсненняў і нашы імёны будуць забыты. Наша жыццё праміне як сляды аблокаў і счэзне як імгла ў цеплыні сонца…”.**

Такі, здаецца, закон бязлітаснага Часу. А чалавек, усё ж такі, намагаецца дзьмуць супраць ветру, заварочваць кіечкам Віслу, пакідаць сляды сваёй дзейнасці на гэтым свеце. І той эпізод з нашай мінуўшчыны стагадовай даўнасці амаль не кануў у Лету як згаданыя вышэй аблокі. Бежанства 1915 года ў расійскае бязмежжа доўгі час знаходзілася ў нас за шырмай, узведзенай гэтак званай гістарычнай палітыкай. Але ж у амаль апошні момант, калі палітычны ціск паслабеў, удалося тую аграмадную з'яву зафіксаваць, пакінуць яе памяці нашчадкаў. І надалей яшчэ вядзецца тое змаганне супраць Часу. Два гады таму каляцаркоўнае таварыства Orthnet аб'явіла конкурс успамінаў пра бежанства, а вынікі тае ініцыятывы сёлета падведзены кніжным выданнем „Jestem, bo wrócili”.

У пятніцу 10 лістапада ў беластоцкім Цэнтры праваслаўнай культуры адбылася прэзентацыя кнігі. На мерапрыемства сабралася шмат народу, у асноўным аўтары ўспамінаў, тыя нашчадкі бежанцаў, якія запамяталі ўспаміны сваіх згаслых ужо продкаў. Мабыць, не толькі яны, бо бежанства 1915 года закранула тады амаль кожную сям'ю, звязаную з Праваслаўнай царквой. Бо менавіта Царкве было тады загадана ўзняць хвалю панікі, а за ёю і масавую эвакуацыю насельніцтва, каб праціўніку Маскоўі пакінуць адно спаленую зямлю. У маскоўскай прагматыцы гэта не адзіны такі прыём вядзення вайны — ён быў паспяхова прыменены стагоддзем раней у час нашэсця Напалеона, пасля прымяняў яго славуты маршал Жукаў, які загадваў паліць расійскія вёскі „чтобы враг не согрелся”. Маскоўскага верхаводства лёс насельніцтва не турбаваў. А ўсялякая паніка спараджае, у прынцыпе, маштабныя беды.

Кніга „Jestem, bo wrócili” прыносіць новыя ўспаміны, некаторыя з іх выносяць на свет цікавыя эпізоды. І яна мае, у агульнасці, шырэйшы тэрытарыяльны дыяпазон чым ранейшыя выданні на гэтую тэму, бо сюды трапілі і матэрыялы з Холмшчыны. Дарэчы, толькі частка кнігі мае дакументальны характар, бо шмат у ёй таксама дзіцячых малюнкаў на тэму бежанства, ёсць і крыху літаратурных замалёвак, у тым ліку нават вершаў, у тым ліку нават і на беларускай мове. І ў шматлікіх выказваннях выносіцца шкадаванне аўтараў занатовак, што яны не ўхапілі важнасці расказаў продкаў, не запісалі іх пры тых продкаў жыцці, і шмат што з тых расказаў загубілася з ходам часу.



Jestem, bo wrócili

Przywracanie pamięci w setną rocznicę bieżeństwa

Stowarzyszenie ORTHNET

Uchodźstwo, refugeeism, fugitivismo, Flucht — гэта толькі некаторыя іншамоўныя назвы бежанства. Не хацелася мне сягаць да іх, але ж бежанства здаецца быць і неўміручым, і глабальным. І ў нас яно не скончылася. Бежанства 1915 года стала тою іскрынкай, якая кранула наша насельніцтва з яго адвечнага тутэйшага матачніка ў шырокі свет, не толькі па новых геаграфічных каардынатах. Вось само мерапрыемства паказалася мне чарговай іпастассю той іскрынкі стагадовай даўнасці. Арганізатары мерапрыемства збеглі, як мне здаецца, ад кірыліцы, у космас, вызначаны лацінскім алфавітам, бо ў іх апісанне бежанства пачынаецца з мінулагодняй, пісанай лацінкай, кнігі „Bieżeństwo 1915. Zapomniani uchodźcy”. Аднак у кніжцы „Jestem, bo wrócili” самі аўтары сямейных успамінаў карыстаюцца выпраўляючай спасылкай: „Źródło: Беженство 1915 года, Ред. В. Луба, Белосток 2000”.

Уводжу гэты прыкол, бо як згадвае кананічная Саламонава мудрасць, kto nie używa rózgi, nienawidzi syna swego, kto zaś miłuje, w czas go karze. Кніга „Jestem, bo wrócili” з'яўляецца цікавай публікацыяй, у ёй паўстаюць перад намі, у тым ліку і на здымках, тыя, агульна кажучы, нашы продкі, якім лёс згатаваў неардынарнае выпрабаванне. Яны вярнуліся — дзеля нас, дзеля сваёй і нашай спадчыны. Кніга даступная ў фармаце pdf па інтэрнэтным адрасе biezenstwo.cerkiew.pl. І ўсім, каму цікавае наша мінулае, кніга напэўна ўзбагаціць веды пра той трагічны эпізод нашай мясцовай гісторыі, які яшчэ не так даўно меў *прамінуць як сляды аблокаў і счэзнуць як імгла ў цеплыні сонца…*

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**










ISSN 0546-1960